№ 38 (923) 14 кастрычніка 2015 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў [illegible] 991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць [illegible] ёва, у серады

Алексіевіч: прэс-канферэнцыя, рэакцыі, урывак з кнігі — **старонкі 4-7**.

# У ГОНАРУ ЖАНОЧАЕ АБЛІЧЧА

Гераіні гэтага тыдня. Пісьменніца Святлана Алексіевіч — першая беларуская нобелеўская лаўрэатка. **Старонка 3.**
Назіральніца Наталля Гарачка, якая не падала руку Лукашэнку на выбарчым участку. **Старонка 2.**




Выбары-2015: назіранне, лічбы, пратэст, Тапузідзіс. **Старонкі 8-12.**

# Назіральніца, якая не падала Лукашэнку руку: «Я паказала стаўленне людзей да яго»

**Незалежная назіральніца Наталля Гарачка не ўстала, калі Аляксандр Лукашэнка прыйшоў галасаваць на свой участак.**

Мы патэлефанавалі жанчыне, каб даведацца, як гэта было.

«Камісія складалася з супрацоўнікаў гэтага ўніверсітэта [Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт фізкультуры і спорту — «НН»], быў прадстаўнік ЛДПБ, КПБ, Саюза жанчын. Усе падняліся, калі Лукашэнка зайшоў, ён пачаў ціснуць рукі. Я рукі не падала.

Бо лічу, што ён, як чыноўнік, не стварыў умоваў для развіцця Беларусі. Такім чынам я паказала стаўленне да яго людзей — не тых, хто з года ў год яго аблізвае, а простых людзей Рэспублікі Беларусь.

Ён спрабаваў падаць руку мне, але я не ўстала, нават не паглядзела ў яго бок, то ён руку прыбраў.

Ведаеце, страшна не было. Некалі я ў адзіночку стаяла на Кастрычніцкай плошчы з бел-чырвона-белым сцягам і балонікам, дзе быў перакрэслены партрэт Лукашэнкі. Нехта з журналістаў сфатаграфаваў і змясціў у часопіс з цудоўнай фразай: «Улада баіцца тых, хто яе не баіцца, і не любіць тых, хто любіць яе». Усе, хто мяне ведае, да мяне ставяцца паважліва.

Я была незалежным назіральнікам ад прафсаюза РЭП, таксама я дапамагаю незарэгістраванай праваабаронччай арганізацыі «Прававая дапамога насельніцтву». Яшчэ ў мяне грамадзянская ініцыятыва «Беларускі ўкроп», якая займаецца дапамогай Украіне.

Дастаткова цяжка было трапіць на ўчастак Лукашэнкі. Некаторых людзей не зарэгістравалі, майго напарніка прыбралі з участка. Прыехалі з яго працы, пачалі палохаць звальненнем. Са мной была яшчэ дзяўчына з АГП Марына Кацярыніч. Яна таксама не ўстала, калі прыйшоў Лукашэнка. Толькі мы ўдвух сядзелі.

Большасць назіральнікаў былі фіктыўнымі. Яны добрыя знаёмыя сяброў камісіі, віталіся за руку з людзьмі, што прыходзілі галасаваць, абдымаліся. Гэта ж асаблівы ўчастак. Там людзі з Драздоў, спартсмены.

Назіральнікі гэтак сама стаялі, калі прыязджаў Віктар Лукашэнка з дзіцём, ён праз паўгадзіны прыехаў пасля бацькі.

Калі Лукашэнка зайшоў у кабінку, то адразу адзін за адным прыйшло 111 чалавек на галасаванне. У іншыя гадзіны было нашмат меней.


СЯРГЕЙ ГРЫЦ, AP

На ўчастку быў 2681 выбаршчык. Паводле нашых падлікаў, на галасаванне прыйшло 1368 чалавек, то бок крыху болей за 50%. Афіцыйныя ж лічбы, што прагаласавала 2053 чалавекі. А за Лукашэнку афіцыйна прагаласавала 1403 чалавекі, па нашых падліках, столькі нават не прыйшло галасаваць.

Я займаюся грамадскай дзейнасцю ад 1996 года, калі было створанае аб'яднанне «Асацыяцыя шматдзетных бацькоў Савецкага раёна горада Мінска». Мы прасоўвалі праект закона аб ільготным крэдытаванні шматдзетных сем'яў. Ад 2000 года я актыўна ўдзельнічала ва ўсіх акцыях пратэсту. На Акрэсціне была аднойчы — у 2006 годзе пасля першага дня суда над Аляксандрам Казуліным. Сядзела ў камеры з рудой дзяўчынай, якая ўжо памерла, Хрысцінай Шацікавай.

Усе мае чацвёра дзяцей таксама ўдзельнічаюць у грамадскім жыцці. Былі ў «Зубрах», на Плошчы. Дачка Юлія таксама была назіральніцай на гэтых выбарах».

Наталлі Гарачцы 49 гадоў. Яна нарадзілася ў Мінску. Скончыла Мінскі тэхналагічны тэхнікум. Мае трох сыноў і дачку.

**Запісаў Зміцер Панкавец**

# Ягор Скрабнеўскі: «Я патрыёт, вось у чым справа»

**17- гадовага хлопца з бел-чырвона-белым сцягам міліцыя затрымала на плошчы Незалежнасці пасля выбараў.**

Ягор Скрабнеўскі мірна стаяў з бел-чырвона-белым сцягам ўвечары 11 кастрычніка на плошчы Незалежнасці, калі да яго падышлі супрацоўнікі міліцыі. Спачатку міліцыянты заявілі, што Ягор будзе абвінавачаны ў арганізацыі несанкцыянаванага масавага мерапрыемства. Затым — абвінавацілі хлопца ў лаянцы. У выніку Ягора адвялі ў маршрутку, якая была прыпаркаваная ля Чырвонага касцёла, склалі на яго пратакол і адпусцілі.

Ягор Скрабнеўскі вучыцца ў 11 класе ў звычайнай мінскай школе №90. Кажа, што выйшаў 11 кастрычніка на плошчу з бел-чырвона-белым сцягам, каб выказаць сваю грамадзянскую пазіцыю.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

«Я патрыёт, вось у чым справа, калі казаць коратка, — кажа Ягор. — Я яшчэ не магу галасаваць. Але калі б мне споўнілася 18, я б на выбары не пайшоў. Я лічу, што ўсё гэта фарс. У кампаніі Караткевіч ёсць пэўныя цікавыя моманты... але ж не, я б не галасаваў. Сёлета мае бацькі таксама не галасавалі».

Хлопец падкрэслівае, што разумеў, калі выходзіў, што можа здарыцца. Кажа, ведаў, што магчымыя наступствы.

«Але ж калі ўсе будуць баяцца і не хадзіць, то ўвогуле загінуць беларусы. Ну так, я трапіў да міліцыі, але я не шкадую, проста так здарылася. Такое магло адбыцца з кожным, хто выходзіць паказаць сваю незадаволенасць», — мяркуе Ягор.

Што яго чакае далей, хлопец пакуль не ведае. Пратакол ён не падпісваў.

«Я не ведаю, што там будзе. Ці дадуць мне штраф, ці не. Спадзяюся, што хопіць сваіх грошай, каб яго аплаціць, — кажа Ягор. — Пратакол я не падпісаў нават не таму, што быў не згодны. Мне яго проста не паказалі. Міліцыянты склалі яго, і потым мяне адпусцілі, вось і ўсё. На мае пытанні яны не адказвалі, але паводзілі сябе дастаткова спакойна. Прычым цікава, што ў мяне не было ж дакументаў — я непаўналетні. Міліцыя павінна была перадаць мяне маці, але адпусцілі проста так».

У панядзелак у школе Скрабнеўскага выклікалі да дырэктара на размову. Але, па словах хлопца, яны проста пагаварылі. Ніякіх праблем яго прысутнасць на плошчы не выклікала. Прынамсі, пакуль што.

**Улад Швядовіч**

## Сціслa

**Шорац: Калі вам сорамна за Мікалая Лукашэнку ў ААН — з'язджайце з Беларусі**

Старшыня Мінгарвыканкама Андрэй Шорац на сустрэчы з грамадзянамі ў зале сярэдняй школы №120 закрануў многія тэмы. Жанчына пацікавілася ў чыноўніка, ці не сорамна яму за краіну, кіраўнік якой возіць за сабой малалетняга сына на афіцыйныя мерапрыемствы. «Калі ў Заводскім раёне галоўная праблема — гэта сын прэзідэнта, то тады вы добра жывяце», — сказаў Шорац. Пры гэтым ён параіў жанчыне, што яна магла б пераехаць у іншую краіну, дзе ёй будзе не так сорамна.

**Праверацъ усіх**

Міністэрства па падатках і зборах распрацавала інструкцыю, у якой распісаны парадак кантролю за адпаведнасцю расходаў грамадзян іх даходам. Рабіць гэта інспектары будуць на падставе наяўных у распараджэнні падатковых органаў звестак аб даходах, маёмасці і іншых выдатках грамадзян без патрабавання дэкларацый аб даходах і маёмасці. Адпаведны дакумент апублікаваны 13 кастрычніка на Нацыянальным прававым партале.

**Пуцін заявіў, што пік крызісу ў Расіі дасягнуты**

Па словах Пуціна, у расійскай эканоміцы, нягледзячы на крызісныя з'явы, усё ж назіраецца пазітыўная дынаміка. У пацвярджэнне гэтага ён нагадаў, што ў трэцім квартале 2015 упершыню з 2010 года назіраўся прыток капіталу.

ЛМ

## Рэкамендуем

### Лукашэнка, Пуцін, Назарбаеў на вечарынцы ў Рахмона

Глядзіце незвычайнае відэа на nn.by.

## Самае чытанае на nn.by за 7— 13 кастрычніка

1 «Выбары-2015»: уся інфармацыя — анлайн

2 Першы раз у гісторыі беларуска атрымала Нобелеўскую прэмію. Сем фактаў пра Святлану Алексіевіч

3 Хоць апазіцыя не заклікала на Плошчу, людзі зладзілі шэсце па праспекце

4 У цэнтры Мінска прайшло шматлюднае шэсце за свабодныя выбары

5 Назіральніца, якая не падала Лукашэнку руку: «Я паказала стаўленне людзей да яго»

6 АМАП затрымаў 12-гадовага сына Караткевіч

7 Мэр Мінска: Калі вам сорамна за Мікалая Лукашэнку ў ААН — з'язджайце з Беларусі

8 На ўчастку ў Рагачове камісія дазволіла назіраць за падлікам. Яўка 67%, Лукашэнка 65%, Караткевіч 25%

9 Святлана Алексіевіч дала сваю першую прэс-канферэнцыю як нобелеўскі лаўрэат — ТОП-15 выказванняў

10 Караткевіч не верыць у агучаныя лічбы

# Першы беларускі Нобель!

Сем фактаў пра **Святлану Алексіевіч**.

«За свае поліфанічныя творы, помнік пакутам і мужнасці нашага часу», — гаворыцца ў фармулёўцы Нобелеўскага камітэта.

8 кастрычніка ў Стакгольме абвешчана імя новага лаўрэата Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры. Гэта беларуска Святлана Алексіевіч. Выхадцы з Беларусі атрымлівалі Нобель раней, але беларуска, грамадзянка Беларусі — упершыню. Таму гэта — гістарычны дзень для Беларусі.

Святлана Алексіевіч — пісьменніца, якая сваімі настаўнікамі лічыць Быкава і Адамовіча.

Для «Нашай Нівы» было вялікім гонарам тое, што першую сваю прэс-канферэнцыю нобелеўская лаўрэатка зладзіла ў нас.

Больш за сто журналістаў зляцелася ў Рэдакцыю «Нашай Нівы», а найбольшы пакой у нас — усяго дваццаць квадратаў.

### Выратавалі жыццё ўкраінскія манахіні

Святлана Алексіевіч нарадзілася ў 1948 годзе ва ўкраінскім Івана-Франкоўску.

Яе бацька — беларус, вайсковец-лётчык, маці — украінка.

«Мая ўкраінская бабуля заўсёды мне казала, што я мушу любіць Украіну. Усё дзяцінства яна мне расказвала пра Галадамор, які гэта быў кашмар».

Алексіевіч расказвала, што гісторыя яе жыцця пачыналася з таго, як дактары сказалі, што яна не выжыве. «У мяне быў рахіт. Маці нічога не магла купіць на базары. Сябры бацькі перакінулі яго нейкім чынам праз сцены манастыра, і ён прыйшоў да настаяцельніцы. Ён папрасіў, каб выратавалі дзіця. Настаяцельніца доўга думала, пасля сказала, каб жонка прыходзіла штодня, мы будзем выдаваць паўлітра казінага малака».

### Дзевяць троек у атэстаце

У 1961 годзе сям'я Алексіевічаў пераязджае ў Петрыкаўскі раён Беларусі.

Бацька — Аляксандр Яўхімавіч — становіцца дырэктарам Капаткевіцкай сярэдняй школы. Гэта самая глуш Палесся. Маці таксама працавала настаўніцай. Цікава, што ў гэтай самай школе вучылася Ніна Мазай — будучая віцэ-прэм'ерка БССР.

Выдатніцай Алексіевіч не была. У адным з інтэрв'ю яна прызнавалася, што скончыла школу аж з дзевяццю тройкамі. Выдатна было толькі па літаратуры і гісторыі. Алексіевіч кажа, што асаблівай сімпатыі да школы яна ніколі не мела, а хацела хутчэй вырвацца ў вялікі свет.

### Папрацавала ў раёнках і настаўніцай

Пасля школы Алексіевіч працавала карэспандэнтам нараўлянскай раёнкі «Прыпяцкая праўда». Працавала настаўніцай нямецкай мовы ў Мазырскім раёне. У 1967 годзе паступіла на журфак БДУ. Пасля яго сканчэння была размеркаваная ў бярозаўскую раёнку «Маяк камунізму». Ад 1976 года працавала ў мінскіх газетах і літаратурных часопісах.

Моцны ўплыў на творчасць Алексіевіч аказаў Алесь Адамовіч і кнігі «Я з вогненнай вёскі», «Блакадная кніга», што з'явіліся з ягоным удзелам. Менавіта Адамовіч запачаткаваў у Беларусі жанр, дзе змешваліся літаратура і журналістыка. Алексіевіч называла Адамовіча сваім настаўнікам і пайшла яго дарогай.

«З тысячы галасоў, кавалачкаў нашага быту і быцця, словаў і таго, што паміж словамі, я складваю не рэальнасць (рэальнасць недасягальная), а вобраз... Вобраз свайго часу. Тое, як мы яго бачым, як мы сабе ўяўляем. Я складваю вобраз сваёй краіны ад людзей, якія жывуць у мой час. Я хацела б, каб мае кнігі сталі летапісам, энцыклапедыяй амаль дзясятка пакаленняў, якія я заспела і разам з якімі іду», — так Алексіевіч ахарактарызавала сваю творчасць.

Два гады выдавецтвы мурыжылі яе кнігу «У вайны не жаночае аблічча». Набор яе першай кнігі «Я з'ехаў з вёскі» рассыпалі ў друкарні. Толькі з крызісам Савецкага Саюза яе кнігі змаглі паўнаварта дайсці да чытача.

### Хавала Арлова

Намеснік дырэктара Ліцэя імя Якуба Коласа Лявон Баршчэўскі кажа, што Алексіевіч была адной з першых, хто стаў на абарону ліквідаванай навучальнай установы. «Калі нас выгналі ў падполле, то Алексіевіч дапамагала грашыма на арэнду памяшканняў, ахвяравала частку ўласнай бібліятэкі, удзельнічала ў сустрэчах».

Алексіевіч ніколі не была звязаная з палітычнай апазіцыяй, але ўвесь час дапамагала грамадзянскай супольнасці.

Таксама Баршчэўскі кажа, што за доўгі час знаёмства ніколі не чуў ад Алексіевіч нічога абразлівага ў бок беларускай мовы. «Усё гэта лухта, што яна супраць усяго беларускага».

Літаратар Уладзімір Арлоў расказаў незвычайную гісторыю, як яму ў жыцці дапамагла Святлана Алексіевіч. «Пасля майго выступу на Дзядах 1988 года да мяне пачаў заходзіць міліцыянт Сальнік. Ён склаў два запар пратаколы за пражыванне ў Мінску без прапіскі. Мне пагражала дэпартацыя па месцы прапіскі ў Полацк. У гэтай сітуацыі на дапамогу мне прыйшла Святлана Алексіевіч».

Жыллёвыя ўмовы пісьменніцы дазвалялі прапісаць у сябе Арлова. Алексіевіч падала дакументы ў камунальныя службы. Дзякуючы гэтаму Уладзімір Арлоў захаваў працу ў «Мастацкай літаратуры», а таксама застаўся ў Мінску.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Дзяржаўныя выдавецтвы Беларусі не друкавалі Алексіевіч з 1993 года**

У апошні раз творы нобелеўскага лаўрэата Святланы Алексіевіч былі апублікаваныя ў Беларусі дзяржаўным выдавецтвам больш за 20 гадоў таму, вынікае з дадзеных на сайце пісьменніцы. Першай кнігай Алексіевіч, выдадзенай у Беларусі, стала «У вайны не жаночае аблічча», выпушчаная выдавецтвам «Мастацкая літаратура» ў 1985 годзе. Затым была выдадзеная кніга «Апошнія сведкі», у 1991 годзе былі выпушчаныя «Цынкавыя хлопчыкі» і ў 1993 — «Зачараваныя смерцю».

У 1999 грамадскім аб'яднаннем «Літаратурна-мастацкі фонд «Гронка» была выдадзена «Чарнобыльская малітва», а ў 2013 «Час second-hand» быў апублікаваны прыватным выдавецтвам «Логвінаў».

Усяго кнігі Алексіевіч выдаваліся 154 разы. Сярод моў, на якія былі перакладзены яе творы, — нямецкая, грузінская, нарвежская, кітайская і іншыя. Часцей за ўсё яе кнігі друкаваліся ў Маскве — больш за 20 разоў.

**У мінскіх кнігарнях скупляюць кнігі Алексіевіч**

Літаральна праз гадзіну пасля ашаламляльнай навіны ў сталічных кнігарнях пачаўся ажыятаж на кнігі аўтара. У «Акадэмкнізе» паспелі зрабіць адмысловы стэнд. Найбольш куплялі апошнюю кнігу, «Час second-hand». Але бралі і папярэдня: «Цынкавыя хлопчыкі», «У вайны не жаночае аблічча», «Чарнобыльская малітва». Каштавалі кнігі ад 135 да 250 тысяч.



**1988 год, Кабул. Падчас працы над кнігай «Цынкавыя хлопчыкі».**

### Цэніць Станкевіча і Федарэнку

Святлана Алексіевіч шмат чытае беларускай літаратуры. Мала што праходзіць міма яе.

«Я люблю тое, што мяне адкрывае, я люблю сапраўдныя рэчы... Напрыклад, «Любіць ноч — права пацукоў» Юрыя Станкевіча. Я помню, што, калі гэта прачытала, я ахнула. Я ўбачыла добра зробленую рэч», — казала Алексіевіч.

Алексіевіч таксама адзначала Андрэя Федарэнку за ягонае апісанне вёскі.

Сёлета, калі «Наша Ніва» надрукавала дзённік Андруся Горвата — мінчука, які пераехаў у вёску — гэта так уразіла Святлану Алексіевіч, што яна даслала ў палескую вёску бандэроль з кніжкамі.

### Не атрымала ніводнай прэміі ў Беларусі

Пісьменніца аблашчаная міжнароднымі літаратурнымі прэміямі. Напрыклад, толькі за апошнія гады яна атрымала прыз чытацкіх сімпатый на самай прэстыжнай прэміі Расіі «Вялікая кніга», прэмію імя Рышарда Капусціньскага ў Варшаве, званне афіцэра ганаровага ордэна мастацтваў і літаратуры Французскай Рэспублікі, французскую прэмію Медычы, прэмію Саюза нямецкіх кнігагандляроў. Ад канца 90-х яе рэгулярна ўзнагароджваюць на Захадзе, а вось ніводнай прэміі ў Беларусі яна так і не атрымала.

Дарэчы, у расійскіх СМІ з года ў год качуе адна і тая ж памылка, што Алексіевіч жыве ў Еўропе. Не, яна вярнулася ў Беларусь і апошнія гады жыве ўзімку ў Мінску, а цёплай парой — на лецішчы каля вытоку Іслачы. Праўда, пры гэтым шмат падарожнічае, сустракаецца з чытачамі ва ўсім свеце.

### Устала на абарону Украіны і еўрапейскіх каштоўнасцей

Ад пачатку вайны на Данбасе Святлана Алексіевіч адразу заняла ясную пазіцыю. Яна не саромеецца называць калектыўным вар'яцтвам тое, што сёння робіцца ў Расіі. Яна заклікае расійскіх інтэлектуалаў не маўчаць у гэтай сітуацыі, не баяцца выказваць сваё меркаванне.

«Пуцін — не палітык. Пуцін — кадэбэшнік. І тое, што ён робіць, — гэта правакацыйныя рэчы, якімі звычайна займаецца КДБ», — гэта таксама словы Алексіевіч.

У нядаўнім інтэрв'ю «Нашай Ніве» Святлана Алексіевіч сказала: «Мы маем справу з рускім нацыяналізмам, які вельмі небяспечны. Мне вельмі шкада, што ён паражае і таленавітых людзей, як той жа Прылепін. Дай бог, каб мы ацалелі ў гэтым рускім нацыяналізме». «Беларусь можа выратавацца, толькі калі павернецца ў бок Еўропы», — дадала яна.

Апошнім часам у расійскіх СМІ прайшлі хвалі цкавання Святланы Алексіевіч.

**Зміцер Панкавец**

**За Нобелеўскую прэмію Святлана Алексіевіч заплаціць 13% падатку**

Святлана Алексіевіч разам з Нобелеўскай прэміяй атрымае прызавыя — 8 мільёнаў шведскіх крон, ці 953 тысячы даляраў. Але ці давядзецца лаўрэатцы плаціць падаходны падатак за грошы?

Гэтае пытанне «Еўрарадыё» задае Міністэрству па падатках і зборах. На гарачай лініі адказваюць, што падатак заплаціць давядзецца, калі чалавек болей за 183 дні жыве ў Беларусі.

«Калі б вы атрымалі прэмію ад Беларусі, тады мелі б ільготы. Калі, да прыкладу, маеце званне «Народны артыст», штомесячна нейкія выплаты ёсць, і яны не абкладаюцца падаткам. А Нобелеўская прэмія — гэта даход з-за мяжы і абкладаецца падаткам 13%», — кажуць на гарачай лініі Міністэрства па падатках і зборах.

Атрымліваецца, з прэміі Святлана Алексіевіч вінна будзе заплаціць дзяржаве 123 890 даляраў. Сама пісьменніца сказала, што прэмію збіраецца выдаткаваць на напісанне новых кніг.

# «Я чалавек беларускага свету»

Прэс-канферэнцыя **Святланы Алексіевіч.**




Рэдакцыя «Нашай Нівы» не здолела змясціць усіх рэпарцёраў.

**– Што Вы адчулі, калі даведаліся пра ўзнагароду?**

— Я, канечне, падумала не пра сябе. Адзін тэатр нямецкі ставіў «У вайны не жаночае аблічча» і хацеў, каб некалькі гераінь прыехалі ў Франкфурт. І вы ведаеце, я абтэлефанавала нумароў 50, і нікога няма ў жывых. А перад гэтым у мяне такі ж досвед быў з маім героем з Чарнобыля. І я падумала: як шкада, што гэтыя людзі не даведаюцца. Але кнігу яны трымалі ў руках. Падумала пра тое, што гэта не толькі мне ўзнагарода, але і ім... і наогул, нашай культуры ў нашай маленькай краіне, якая ўсю гісторыю і цяпер трымаюць у нейкіх жорнах, калі яе ціснуць з усіх бакоў. Я не буду хаваць, вядома, гэта была моцная асабістая радасць, ну і, вядома ж, трывога, таму што ўсё ж такі вялікія цені такія — Бунін, Пастэрнак... Гэта занадта вялікія цені, і яны як бы ажылі для мяне, гэта вельмі сур'ёзна, і калі часам я задумвалася, што я стамілася, што я расчаравалася ў нейкіх рэчах, то цяпер я падумала, што не, планку немагчыма будзе знізіць.

**— А каму б Вы хацелі падзякаваць у першую чаргу?**

— У першую чаргу я б, вядома, сказала дзякуй маім настаўнікам: Адамовічу і Быкаву. Вось гэта мае настаўнікі. І Быкаў, які быў прыкладам такой чалавечай стойкасці, і Алесь Адамовіч, які, вось як ставяць голас, я б сказала, ён паставіў мне машыну мыслення. Я нікога роўнага яму ў беларускай культуры не ведаю па еўрапейскім размаху. Вось пра гэтых людзей, што тычыцца Беларусі, я падумала ў першую чаргу. А так у мяне шмат: мае героі, мае выдаўцы па ўсім свеце, людзі, якія прымушалі мяне пра нешта падумаць, якія дарылі мне нейкую здагадку пра чалавека, бо, каб новае пачуць, трэба па-новаму спытаць. Таму ўсе мы складаемся з настаўнікаў. Усе мы стаім на плячах роду, на плячах людзей, якіх сустрэлі.

**— Вы можаце растлумачыць, што азначае для Вас быць беларускім пісьменнікам, які піша на рускай мове?**

— Я пішу пра чалавека-ўтопію, аб чырвоным чалавеку, 70 гадоў гэтай утопіі, а потым 20 гадоў як мы выходзім з гэтай утопіі. І яна размаўляла на рускай мове. І адсюль у мяне мова, паколькі мае героі гэта і ўкраінцы, і рускія, і беларусы, і татары, і цыганы нават ёсць, то бок вельмі розныя. Я б магла сказаць, што я сябе адчуваю чалавекам беларускага свету, чалавекам рускай культуры, вельмі магутная прышчэпка рускай культуры, і чалавекам, які доўга жыў у свеце, і, вядома, касмапалітам. Чалавек, які глядзіць на свет як на велізарную касмічную прастору. Яшчэ мяне пераканаў у гэтым Чарнобыль, калі я пасля Чарнобыля вельмі шмат ездзіла (у мяне ёсць кніга «Чарнобыльская малітва»), і там, вы ведаеце, не адчуваеш сябе «я беларус», а ты адчуваеш, што ўсё жывое ў адным свеце, што мы ўсе адзін від. Гэта вельмі моцнае адчуванне.

**— Як да вас ставіцца беларуская ўлада?**

— Ну, беларуская ўлада робіць выгляд, што мяне няма, мяне не друкуюць, я не магу нідзе выступаць, ва ўсякім

### Адамовіч і Быкаў — вось гэта мае настаўнікі

выпадку беларускае тэлебачанне... Беларускі прэзідэнт таксама. Дзве гадзіны прайшло, як абвясцілі прэмію, і лістоў 200 я ўжо атрымала, і там адзін вельмі добры хлопец напісаў: вось цікава, як будзе паводзіць сябе Лукашэнка, вось Домрачавай ён даў Героя Рэспублікі Беларусь, што ён будзе рабіць? Мяне павіншаваў толькі міністр інфармацыі Расеі, Грыгор'еў, ён мяне павіншаваў адным з першых.

**— А званне Героя прымеце?**

— Трэба падумаць, але гэта ўсё роўна не ад Лукашэнкі, а ад Радзімы.

**— Як толькі стала вядома пра Вашу ўзнагароду, у каментарах на расейскіх сайтах напісалі, што Алексіевіч атрымала Нобеля дзякуючы нянавісці да Расеі, «рускага свету», Пуціна і г.д. Ці лічыце Вы, што і праўда на нянавісці Вы атрымалі прэмію, і ці ёсць у Вас нянавісць да рускага свету?**

— Калі ў людзей такія фанатычныя ідэі, яны, вядома, шукаюць іх усюды. Там Прылепін такі ёсць. Я хачу сказаць, што тое ж самае пішуць і ў Беларусі, што я ненавіджу і беларускі народ, і ненавіджу не толькі ўладу, але і народ. Я думаю, ніхто не любіць праўду. Я кажу тое, што думаю. Я люблю беларускі народ, я люблю рускі народ, мае сваякі ўсе з боку бацькі былі беларусы, мой любімы дзядуля, і наогул я ў чацвёртым пакаленні сельскі настаўнік, мой прадзед вучыўся разам з Якубам Коласам, таму я адчуваю, што гэта мая радзіма, мая зямля. І ў той жа час, мая бабуля, мая маці — яны ўкраінцы. Я вельмі люблю Украіну. І вось калі я была на Майдане, плошчы, і бачыла гэтыя фатаграфіі Нябеснай сотні, я стаяла і плакала. Гэта таксама мая зямля. Так што не, гэта не нянавісць. Цяжка быць сумленным чалавекам, вельмі цяжка. І трэба не паддавацца гэтаму згодніцтву, на якое гэ-

### Я люблю добры рускі свет літаратуры, балета, музыкі. Але я не люблю свет Сталіна і Пуціна

тая таталітарная ўлада заўсёды разлічвае. Я люблю кнігу «Сумленне нацыстаў», час ад часу яе перачытваю, там пра тое, як фашызм упаўзаў ў жыццё немцаў у 30-я гады. Спачатку, калі немцам гаварылі: не хадзі да таго лекара, да таго краўца — яны наадварот ішлі да габрэйскіх дактароў, дантыстаў, але вельмі магутна працавала машына, вельмі магутна націскала на самыя прымітыўныя кнопкі, тое, што мы сёння бачым і ў Расеі, і за дзесяць гадоў яны зрабілі зусім іншы народ. Я і бацьку свайго пыталася: «Як вы гэта перажылі?», і ён толькі адно мне казаў: было вельмі цяжка, было вельмі страшна. Я думаю, што чалавекам застацца заўсёды страшна, заўсёды складана, нават калі не так масава саджалі, як у тыя гады, але, бачыце, у Расеі ўжо саджаюць, і ў нас ужо саджаюць. Але трэба мець гэтую мужнасць, а тое, што кажуць — ну што ж.

**— А Вы можаце вызначыць сваё стаўленне да «рускага свету»? Які «рускі свет» Вам падабаецца, а які не падабаецца, улічваючы, што Вы пішаце на рускай мове?**

— Я люблю рускі свет, праўда, я да гэтага часу не магу зразумець, што яны маюць на ўвазе. Я люблю добры рускі свет, гуманітарны рускі свет, той свет, перад якім да гэтага часу схіляецца ўвесь свет, перад той літаратурай, перад тым балетам, перад той музыкай вялікай. Так, я гэты свет люблю. Але я не люблю свет Берыі, Сталіна, Пуціна, Шайгу — гэта не мой свет.

**— Наколькі актуальная ў сённяшніх умовах Ваша апошняя кніга «Час сэканд-хэнд»?**

— Я думаю, гэта не пра мінулае кніга, а пра тое, на чым мы стаім, аб нашым падмурку. Яна аб тым, адкуль мы выйшлі. Для мяне дарагія словы, я іх спецыяльна вынесла ў эпіграф, што таталітарызм, лагер разбэшчвае і ката, і ахвяру. Гэта значыць, нельга сказаць, што ахвяра выходзіць абсалютна нетраўмаваная. Вось мы цяпер жывём вось у гэты траўмаваны перыяд. Усе мы так ці інакш прыбітыя да гэтага савецкага досведу. І тое, як адпусцілі і нават справакавалі сітуацыю ў Расеі, і 86% людзей сталі радыя таму, што забівалі людзей у Данецку, і смяяліся з гэтых «хахлоў». Ці тыя, хто зараз лічыць, што ўсё можна вырашыць з пазіцыі сілы.

### Ані ў расейскім, ані ў беларускім народзе няма нянавісці да Захаду, да Еўропы. Гэта ўсё пена, якая створаная палітыкамі

**— Скажыце, беларусы будуць пазнаваць першага ў гісторыі краіны лаўрэата Нобелеўскай прэміі? І Вам бы гэтага хацелася?**

— У 2013 годзе, калі я таксама ўвайшла ў тройку прэтэндэнтаў, я такая стомленая ехала з Берліна, і да мяне падбягае зусім малады чалавек і кажа: «Вы Святлана Алексіевіч?» — «Так». — «Дык Вы ж на Нобеля высунутыя! Ой божа, у мяне не тое што кніжкі, паперкі няма, — і дастае пачак ад цыгарэт. — Распішыцеся на ім!» Я зусім не пыхлівы чалавек, і не лю-

блю публічнасці, і не люблю, калі цябе пазнаюць, таму што ты розны і не заўсёды гатовы да людзей, ты вельмі стаміўся, але ёсць хвіліны, калі ты думаеш: значыць, тое, што ты робіш, чапляе гэтага чалавека. Калі б гэта яму было нядорага і не трэба, ён бы не падбег з гэтым пачкам ад цыгарэт. Я не хачу, як Кіркораў ледзь не ў жаночых сукенках, выходзіць на вуліцу, але часам, калі ты бачыш, што людзям гэта трэба і яны гатовыя з табой пагаварыць, і яны табе давяраюць, і калі ты прыходзіш у дом, яны табе давяраюць як суразмоўцу, гэта, вядома, прыемна.

**— Над чым Вы працуеце цяпер?**

— Цяпер у мяне ў працы дзве кнігі. Такія метафізічныя тэмы.

## Я не барыкадны чалавек, але ўвесь час цягне на барыкады

Жыццё ў нас, вядома, заўжды не атрымліваецца. Пачнём нешта будаваць, а заканчваецца ўсё тым жа — як у анекдоце, «аўтаматам Калашнікава». Цяпер іншыя людзі ўсё ж, якія хочуць быць шчаслівымі. Хочуць кахаць. Ведаюць радасць жыцця. Шмат хто бачыў свет. Я пішу адну кнігу пра каханне — у ёй пра каханне расказваюць і мужчыны, і жанчыны. І другая — пра старасць, пра знікненне, пра канец жыцця. Навошта ўсё гэта і што гэта такое. Вось да гэтай другой кнігі культура, асабліва расейская, больш падрыхтаваная. А вось да кнігі пра шчасце... Усе хочуць быць шчаслівымі, але ніхто не ведае, што гэта такое.

**— Ці пойдзеце Вы на выбары і за каго будзеце галасаваць?**

— Я не пайду на выбары. Але калі б я пайшла, галасавала б за Караткевіч. З жаночай салідарнасці. З-за таго, што я бачу нармальны твар, чую нармальную лексіку, якой я абсалютна не чую ад мужчын-палітыкаў. Нармальная касцюмы, нармальныя рэакцыі. Тое, чаго ў мужчын-палітыкаў няма. Дый і проста з-за таго, што ёсць нейкія спадзевы. А тое, што «Караткевіч — падсадная качка», як піша Пазняк... Я не веру ў гэта. Я не ведаю, хто за ёй стаіць, якія грошы... Але я ведаю, што гэта быў бы новы паварот у нашым жыцці. А не пайду на выбары таму, што мы ж з вамі ведаем, хто пераможа. Мы ведаем, што пераможа Лукашэнка. Напэўна, у яго будзе 76%. Я так думаю. Ён паглядзіць на настрої грамадства і прыкіне, колькі можна.

**— Вы ўзгадвалі Адамовіча, Быкава — а роля беларускай інтэлігенцыі, андэграўнду, наколькі яна фармуючая, важная, наколькі важна мець гэтыя маральныя аўтарытэты?**

— Нашы «магікане» памерлі не ў час. Як нам цяпер не хапае Адамовіча, Быкава, іх слова, іх разумення, іх узроўню. Я думаю, не дазволілі б сабе тое, што дазваляюць, калі іх няма. Мы не можам сабе дазволіць такую свабоду — сядзець дзесьці, як некаторыя мае нямецкія сябры-пісьменнікі з'язджаюць у вёску і пішуць. Мы жывём у такі недасканалы час, такім недасканалым грамадстве. Я не барыкадны чалавек, але ўвесь час цягне на барыкады. Бо сорамна, сорамна за тое, што адбываецца.

**— Ці лічыце Вы, што Ваш голас у будучыні будзе больш важкім у беларускім грамадстве?**

— Ну, я не ведаю, бачыце, у нас такая ўлада... Спадзяюся, ёй патлумачаць, што такое Нобель, і, можа быць, будзе нейкая рэакцыя, можа, асцярожная. Агульны ўзровень палітычнай эліты ў нас савецкага складу. Нават яшчэ горш. У савецкай былі планкі, якія не парушаліся. Там былі людзі, доўга трэба было паўзці па гэтай лесвіцы, каб дапаўзці. А сёння ты з «гразі ў князі» — і кіруеш. Хто толькі не быў міністрам культуры: і будаўнік, і хабзаец нейкі, хто толькі не быў. Я думаю, трэба рабіць сваю справу і гаварыць тое, што ты думаеш.

**— Як Вы ацэньваеце той факт, што Вы першая ў Беларусі ў літаратуры атрымалі Нобеля?**

— Мне складана сказаць. Што датычыцца навуковых распрацовак, фізікі, хіміі, гэта патрабуе вялікага і тэхналагічнага ўзроўню ў краіне, вялікага навуковага патэнцыялу. Па-мойму, усё гэта ў нас разбурана. І я думаю, у нас шмат таленавітых людзей, але яны вымушаны ці эміграваць, як у Расеі, ці непаўнавартасна пражыць сваё жыццё.

**— Што Вы думаеце пра сітуацыю ва Украіне і пра расейскую авіябазу ў Беларусі?**

— Думаю, што расейская авіябаза нам не трэба. Але баюся, што яна будзе ў нас. Не бачу я ў Лукашэнкі сілаў і рэсурсаў гэтаму супрацьстаяць. І не бачу гэтых сіл супраціву ў грамадстве. Грамадства прыме ўсё, што прапануе ўлада, на жаль. Што да Украіны, то я ўсё ж думаю, што гэта, вядома ж, акупацыя, замежнае ўварванне. Хаця там ёсць шмат людзей, якія не задаволеныя тым, як было ва Украіне, і хацелі нейкіх перамен, але яны б ніколі не ваявалі. Яны б знайшлі іншы шлях пераменаў. Прывязіце да нас дзясяткі два грузавікоў, і заўжды знойдуцца людзі, якіх можна ўзброіць. Я чула ад аднаго чалавека, здавалася б, вельмі сімпатычнага, сталы падпалкоўнік, рускі. Але ён быў такі ўзрушаны, калі акупавалі Крым, і сказаў: «Ды мы таксама можам «тряхнуть стариной» і пісталет ёсць, і тужурка ёсць».

**— А Вы плануеце ехаць ва Украіну?**

— А была нядаўна. Бабуля памерла ўжо, а больш такіх блізкіх сваякоў не засталося.

**— На Вашу думку, ці ёсць нейкія прыкметы перамен у Беларусі ці надзея на перамены і ў якім накірунку яны будуць развівацца?**

— У Лукашэнкі вельмі цяжкае цяпер становішча. Ён вельмі хацеў бы адарвацца ад Расеі. Але хто ж яму дасць. З аднаго боку, яго трымае ягоная ўласная мінуўшчына. А з другога боку, яго трымае Пуцін. Пад уласным мінулым я маю на ўвазе, што ён не ведае іншых правіл гульні. Ён з гэтым вырас, нягледзячы на тое, што трэба прызнаць, што ў яго вельмі моцная палітычная чуйнасць.

**— А базу яму навязваюць?**

— Базу яму, вядома, навязваюць. Я не думаю, што ён гэтага хоча сам. Паратунак Беларусі, калі б яна павярнула ў бок Еўрасаюза. Але ніхто яе не адпусціць.

**— А што Вы хацелі б сказаць Нобелеўскай камісіі?**

— Я не ведаю нікога з іх. Я магу ім сказаць толькі дзякуй.

**— А калі яны Вам патэлефанавалі?**

— За некалькі хвілін, як вы даведаліся пра ўсё гэта. Я якраз вярнулася з лецішча, і яны патэлефанавалі.

**— Вы збіраецеся жыць у Беларусі?**

— Так.

**— На што Вы прэмію патраціце?**

— За прэміі я заўжды купляю свабоду. Я пішу кнігі свае вельмі доўга — 5—10 год. Гэта доўгі час, і трэба грошы, і трэба ездзіць, друкаваць. Цяпер я магу спакойна працаваць, не думаючы пра тое, дзе іх зарабіць.

**— А ці паўплывае Ваша перамога на стаўленне да беларускай культуры ў замежжы, у свеце?**

— Мне цяжка казаць, я думаю, трэба, каб існавала не адно імя. Вось нядаўна была ў Аўстрыі, да мяне падыходзяць у кафэ і пытаюць, адкуль я. Я кажу: з Беларусі. А мне гаворыць: о, Домрачава, Лукашэнка. Так што, бачыце, ужо крыху ведаюць.

**— У якой Беларусі Вы б хацелі жыць?**

— Я, вядома, хацела б, каб Беларусь была падобная да скандынаўскіх краінаў. Гэта мара для такой маленькай краіны, як мы. Альбо хацелася б на тое, як выглядае Прыбалтыка.

**— Вы атрымалі прэмію і за Вашу працу пра Афганскую вайну. Ці лічыце Вы, што Пуцін рызыкуе паўтарыць вопыт Афганістана ў Сірыі цяпер?**

— Была гадавіна Афганістана, і яму (Пуціну — *НН.*) задалі пытанне, ці было гэта памылкай. А ён кажа: не,

## Тое, што адбываецца ва Украіне, — гэта акупацыя, замежнае ўварванне

правільна, што мы там былі. Калі б не мы, то былі б амерыканцы. Я думаю так: пасля Афгана былі чачэнцы, цяпер будуць сірыйцы. Я сустракала людзей, якія ў савецкі час ваявалі ў Афрыцы. Гэта краіна салдат. Ці вядомых салдат, ці падпольных салдат. Але ўвогуле мы жывём у вайсковым асяроддзі, вайсковым мысленні. Яно ад верху да нізу. Ад урада да простых людзей.

**— Гэта датычыцца Беларусі, Расеі, постсавецкай прасторы?**

— Так, на жаль, мы яшчэ завязаны ў гэты вузел.

**— На беларускай мове не збіраецеся пісаць?**

— Мне часта задаюць такое пытанне. Што такое беларуская мова сапраўды? Я ведаю беларускую мову, але не так, каб добра на ёй пісаць. І тая мова, якую я ведаю, гэта наркамаўка. І ў мой час вучылі толькі такой мове. Для мяне гэта ніколі не будзе самамэтай.

**— Дзе Вам камфортней за ўсё жывецца, пішацца, у якой краіне? Вы шмат дзе жылі.**

— Напэўна, усё-такі дома, у Беларусі. На лецішчы.

**— Дзе Вы былі, калі Вам патэлефанавалі і сказалі?**

— Дома, дома была. Я прасавала, між іншым.

**— Вы дваццаць год не друкаваліся ў Беларусі? І ніводнай прэміі беларускай у Вас няма?**

— Так, няма.

**— Вы сказалі, што ўсё ж такі належыце да беларускага свету. А што, па-Вашаму, такое беларускі свет?**

— Вось мой бацька беларус. Яго ласкавы погляд, спакойны. Ніколі кепска не скажа. Ён быў дырэктарам школы, потым у старасці настаўнікам. Гэтыя старыя, сярод якіх я вырасла. Вясковыя. Гэты голас. Вось гэтая паэтычнасць іх погляду. І нават калі Чарнобыль быў, я бачыла разгубленасць чыноўнікаў, вайскоўцаў, і толькі гэтыя старыя жанчыны, сяляне, прыродныя людзі, знаходзілі кропкі апоры. Яны цэласна разумелі, што адбылося. Хаця гэта было жорстка. Прыродныя людзі напакутаваліся больш за ўсіх.

**— Ці дапаможа Ваша перамога папулярызацыі беларускай літаратуры і больш шырокаму друку? І ў свеце, і ў нас?**

— Вы ведаеце, гэта не залежыць ад гэтага — усё залежыць ад кнігі. То бок калі прэзентаваць кнігу, яе надрукуюць, а не ад таго, што гэтую кнігу ведаюць. Вось лацінаамерыканцы, яны прапанавалі светапогляд новы, і ўвесь свет іх друкаваў. Рышард Капусціньскі прапанаваў свой погляд, і яго паўсюль друкавалі. Куды, у якое выдавецтва я б ні прыехала, мне кажуць: а вось мы Рышарда Капусьціньскага выдаём. Справа не ў тым, што нехта там ёсць у гэтай краіне, а ў тым, што мы павінны з нейкім тэкстам прыйсці ў гэты свет. У нас быў гэты тэкст, чарнобыльскі тэкст, цяпер гэта тэкст постдыктатуры, што муціруе. Але, на жаль, з постсавецкіх клішэ не даюць вырвацца і даць нейкае новае тлумачэнне гэтаму.

**— Вы сказалі, што не будзеце галасаваць на выбарах, таму што ў гэтым няма ніякага сэнсу. Вы лічыце, што грамадзяне краіны павінны зрабіць на Ваш узор?**

— Байкатаваць выбары ні ў якім разе нельга. Бо калі вы байкатуеце, то Лукашэнка атрымлівае больш шанцаў... Бо калі прагаласуе з тысячы чалавек восемсот, то ён можа паставіць сабе такую колькасць галасоў. А калі прыйдзе толькі пяцьсот чалавек, то вырастуць яго працэнты. Гэта няправільныя паводзіны. Я лічу, што заклік да байкоту — гэта памылка апазіцыі. Гэта можна элементарна падлічыць, што, калі мы байкатуем выбары, мы даём шанец павысіць колькасць працэнтаў Лукашэнкі. Гэта вельмі проста. Я ўжо недзе расчараваная ў нашай апазіцыі і ў нашым народзе, калі так можна сказаць. Што мы ніяк не прачнёмся. Я думаю, што гэта доўгі шлях.

**— Калі Ваша кніжка апошні раз выходзіла ў Беларусі? Ці помніце Вы гэта?**

— Гадоў 25 таму...

**— Апошняй Ваш «Час сэканд-хэнд» выйшаў.**

— Ой, так, але ж гэта такая напаўпадпольная кніга, недзяржаўная.

**— А дзяржаўныя выдавецтвы калі апошні раз выдавалі і якую кнігу?**

— Па-мойму, «Цынкавыя хлопчыкі» нейкае маленькае выдавецтва выдавала... Беларускае выдавецтва. Але гэта таксама было маленькае выдавецтва і асабісты ўчынак рэдактара.

**— Калі б Вам давялося ў адным паведамленні сказаць нешта беларусам, што б гэта было?**

— Давайце пастараемся жыць у годнай краіне.Кожны павінен штосьці для гэтага зрабіць. Не трэба чакаць, што гэта зробіць сусед, сын твой, усе павінны нешта рабіць. Інакш па адным вельмі лёгка нас шантажаваць, напалохаць, з намі расправіцца. Давайце будзем ісці разам, але ў той жа час я

## Я, вядома, хацела б, каб Беларусь была падобная да скандынаўскіх краінаў. Гэта мара для маленькай краіны, як мы. Альбо хаця б на Прыбалтыку

супраць рэвалюцыі. Мне не падабаецца кроў. Я не хачу, каб хаця б адно жыццё маладога хлопца было загублена. Я лічу, мы мусім знайсці свой беларускі «гандзізм». Калі мы будзем разам, мы яго знойдзем, канешне.

**— Зараз шмат войнаў, ці няма ў Вас расчаравання, што кнігі нібы нічому не вучаць? Ці магчымае зараз збліжэнне Усходу і Захаду, не новая халодная вайна, а агульны свет, не рускі, не заходні?**

— У свеце ёсць не толькі кнігі, Талстой, яшчэ нехта, а ёсць і Біблія, і Францыск Асізскі, і Суражскі, які на камені стаяў колькі дзён, рэлігійныя пакутнікі... А чалавек не змяняецца. Але ўсё-такі хочацца верыць, што нешта змяняецца, хоць падзеі ў Данецку і вайна ў Адэсе мяне напужалі. Як хутка злятае культура і як хутка вылазіць звер з чалавека. Так што я думаю, калі мы кінем рабіць сваю справу, можа быць яшчэ горш. Як там у апостала Паўла: гора мне, калі я перастану прапаведаваць. Што тычыцца антызаходніцтва, як зараз у Расеі, то я лічу, што гэта сыдзе. Сыдзе разам з цяперашнімі лідарамі. Няма гэтай нянавісці ў народзе. Ані ў расейскім, ані ў беларускім няма нянавісці да Захаду, да Еўропы. Гэта ўсё пена, якая створаная палітыкамі. Ну і заўсёды знойдзецца моладзь, якой захочацца згуляць у сваю нейкую гульню. Так што гэта не глыбока, але адзінае, што ў прамежкавым часе мы будзем жыць яшчэ доўга. Мы занадта былі наіўныя ў 90-я гады, калі думалі, што раз — і тут жа мы станем свабоднымі. Не, гэта немагчыма, як выявілася. Усім здавалася: людзі прачытаюць Салжаніцына — і тут жа зробяцца чыстымі, а людзі кожны дзень некага забівалі ў пад'ездах. Я думаю, самая цяжкая спадчына, якая засталася ад сацыялізму, — гэта траўмаваны чалавек, таму што лагер разбэшчвае і ката, і ахвяру.

# Лукашэнка пра Алексіевіч: Яна напісала нармальныя творы, а апазіцыйнасць перажывём

Аляксандр Лукашэнка рады, што Нобелеўскую прэмію па літаратуры атрымала грамадзянка Беларусі. Пра гэта ён заявіў 9 кастрычніка падчас сустрэчы з будаўнікамі Беларускай АЭС і жыхарамі Астравецкага раёна.

«Гэта гаворыць пра тое, што якую б ты пазіцыю ні займаў, усё-такі ў Беларусі магчыма працаваць і ствараць, пісаць, выказваць свой пункт гледжання, сваю пазіцыю і гэтак далей», — сказаў Лукашэнка, фрагменты выступлення якога былі паказаныя па айчынных тэлеканалах.

«Я ведаю яе творы, я дыскусій шмат чуў, — працягнуў ён. — Я не лічу яе нейкім вялікім апазіцыянерам. Яна пісала нармальныя творы, у яе адпаведны стыль — ад першай асобы, калі я не памыляюся. Яна шукала людзей, яна сабрала грошы і паехала ў Афганістан. Пабыла там, потым напісала — ну, натуральна, тэндэнцыйна, — узяўшы людзей, якія штосьці там прайшлі, бачылі, і загінулых людзей, але гэта пункт гледжання канкрэтных людзей. Якая ж тут апазіцыйнасць? Гэта яе форма, яе стыль. Я нічога супраць гэтага не маю».



«І пачынаючы ад твораў, якія, увогуле, і савецкай уладай падтрымліваліся, вазьміце «У вайны не жаночае аблічча», яе славуты твор (я прагледзеў па дыяганалі ў свой час, як людзі выказваліся пра вайну, як жанчыны выказваліся аб гэтым), «Цынкавыя хлопчыкі» і іншае. Я кажу, гэта своеасаблівы стыль падачы, але гэта ж рэальнасць», — падкрэсліў беларускі кіраўнік.

«Так, я лічу, што ў яе ёсць свой пункт гледжання, і ніякай я не бачу тут асаблівай апазіцыйнасці. Яна ж не кліча людзей на плошчу, яна супраць мяцяжоў гэтых. Я гэта вельмі цаню. І гэта, напэўна, уплыў яе другой радзімы — Украіны — на яе свядомасць», — заявіў Лукашэнка.

Паводле слоў афіцыйнага лідара, у прывітальным пасланні Алексіевіч ён «напісаў з намёкам на тое, што цяпер важна для беларусаў»: «Важна, што першы наш беларус у літаратуры пасля савецкіх часоў — яны таксама нам былі не чужыя — стаў лаўрэатам Нобелеўскай прэміі. Галоўнае цяпер, як ты выкарыстаеш гэты багаж. Калі ты беларус, грамадзянка Беларусі (не важна, што ты нарадзілася ва Украіне), гэта твая зямля, твая дзяржава, падабаецца табе ці не падабаецца, ты ўжо сёння чалавек, які ўзняўся высока, як ты гэты імідж, гэты багаж, які ў цябе з'явіўся, выкарыстаеш на карысць свайго народа. Вось што сёння важна. Таму, каментуючы сёння гэтую падзею, я з гэтага выходжу. Я хачу, каб карысць была для народа, калі ўжо табе выпала шчасце атрымаць вядомую у свеце Нобелеўскую прэмію», — сказаў Лукашэнка.

«А апазіцыйнасць... Ну... Ну, перажывём. Шмат у нас апазіцыянераў. Гэта, магчыма, нават і добра», — дадаў ён.

Лукашэнка афіцыйна павіншаваў пісьменніцу ў той самы дзень, калі яна была абвешчаная ўладальніцай Нобелеўскай прэміі па літаратуры за 2015 год.

**БелаПАН**

**Крэмль пракаментаваў прысуджэнне Нобелеўскай прэміі Святлане Алексіевіч**

«Нобелеўскі лаўрэат па літаратуры 2015 года Святлана Алексіевіч не мае звестак, каб даць аб'ектыўную ацэнку таму, што адбываецца ва Украіне. Такое меркаванне выказаў журналістам прэс-сакратар прэзідэнта РФ Дзмітрый Пяскоў, адказваючы на просьбу пракаментаваць заяву пісьменніцы аб тым, што канфлікт ва Украіне з'яўляецца акупацыяй.

Пяскоў таксама выказаў сумнеў, «што прэзідэнт у курсе гэтай заявы», паведамляе ТАСС.

# Сусветныя СМІ пра Святлану Алексіевіч

Газета *Independent* напісала: «Яна стала вынаходніцай новага літаратурнага жанру, заснаванага на рэальных інтэрв'ю, а таксама патрапіла пад моцны ўплыў свайго калегі, беларускага пісьменніка Алеся Адамовіча».

Іспанская газета *El Pais* адзначае, што яна крытык цяперашняга беларускага палітычнага рэжыму, яе апошняя кніга мела агромністы поспех у Германіі.

Французскае выданне *Le Figaro* апублікавала вытрымкі з ранейшага інтэрв'ю пісьменніцы. Там Алексіевіч кажа, што знаходзіцца ў палоне журналістыкі, але журналістыкай называць свае творы не хоча. І называе іх «раманам галасоў».

Амерыканскі канал *CNN* творчасць пісьменніцы апісвае яе ж словамі: «Я пішу гісторыю чалавечых пачуццяў. Тое, што людзі думалі, разумелі і памяталі падчас падзеі. Тое, у што яны верылі ці не верылі, іх ілюзіі, надзеі і страхі, іх досвед. Такое немагчыма ўявіць ці прыдумаць, ва ўсялякім выпадку, у такім мностве рэальных дэталяў».

Амерыканскі СМІ *New York Times* піша, што ў ЗША Алексіевіч ведаюць па кнізе «Чарнобыльская малітва». Гэтая кніга атрымала Нацыянальную кніжную прэмію *Critics Circle*.

**«Еўрарадыё»**




# Святлану Алексіевіч будуць вывучаць у школе

Цяпер творы лаўрэата Нобелеўскай прэміі ў сярэдняй школе не праходзяць ні ў асноўнай праграме, ні па пазакласным чытанні. Але хутка старшакласнікі прачытаюць «Цынкавых хлопчыкаў» і «Чарнобыльскую малітву».

— Творчасць Святланы Алексіевіч вывучаецца на філалагічных факультэтах беларускіх універсітэтаў. Менавіта з яе імя студэнты пачынаюць вывучэнне рускамоўнай літаратуры Беларусі XX ст., — распавялі kp.by ў Міністэрстве адукацыі.

Мяркуючы па ўсім, вернецца пісьменніца і ў сярэднюю школу. Міністэрства адукацыі збіраецца ўключыць яе «Чарнобыльскую малітву» і «Цынкавых хлопчыкаў» у праграму па літаратуры.

— У сувязі з пераходам на профільнае навучанне сёлета пераглядаюцца навучальныя праграмы для сярэдняй агульнаадукацыйнай школы. У праект праграмы для 11-класнікаў, якія вучацца як на павышаным, так і базавым узроўні, у раздзеле «Рускамоўныя пісьменнікі Беларусі» прапанавана два творы для вывучэння творчасці лаўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры за 2015 Святланы Алексіевіч, — заявілі ў Міністэрстве адукацыі.

**Віктар Марціновіч: На выбарах прэзідэнта перамагла Святлана Алексіевіч**

«На выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь перамагла Святлана Алексіевіч. Мае віншаванні калегу», — напісаў у сваім фэйсбуку пісьменнік Віктар Марціновіч.

**Андрэй Саннікаў: Я ў захапленні**

«Я такі шчаслівы. Яна сапраўды заслугоўвае гэтай узнагароды. Яна вялікі чалавек, глыбокі, удумлівы, цікавая суразмоўца, вельмі шчырая», — цытуе словы кандыдата ў прэзідэнты Беларусі — 2010 і палітвязня *The Guardian*.

**Ананіч: Міністэрства інфармацыі не можа не павіншаваць**

«Мы можам ганарыцца чарговым поспехам краіны. Беларусь прагучала на ўвесь свет у галіне літаратуры з прызнаннем Святланы Алексіевіч. Міністэрства інфармацыі не можа не павіншаваць нашага нобелеўскага лаўрэата, і такое віншаванне падрыхтавана. Больш за тое, з Нацыянальнай кніжнай палатай мы прагледзелі, якая колькасць кніг Святланы Алексіевіч маецца ў Беларусі. Дастаткова шмат кніг аўтара выдавалася ў савецкі перыяд, гэта ўсё захоўваецца ў архівах Нацыянальнай кніжнай палаты», — сказала міністр інфармацыі Лілія Ананіч.

Яна сказала, што літаральна за лічаныя хвіліны на стол кіраўніка ведамства лягло шэсць найменняў кніг аўтара, якія ў цяперашні час знаходзяцца ў гандлёвай сетцы.

**Альгерд Бахарэвіч. Наш апошні Нобель**

Не, вы не падумайце, калі ласка, што я зайздрошчу. Хаця, чаго ўжо тут, зайздрошчу, вядома, — як і ўсе тыя сотні тысяч разнамоўных і разнамасных аўтараў, што спрабуюць у гэты момант складваць словы ў кнігі. Наш першы Нобель — скажа з гордасцю нацыя. І апошні — дадам я. Кнігі Алексіевіч не пра нас. Мы — не яе героі. Мы жывыя і жывём сёння, і краіна, дзе гэта адбываецца, даўно ўжо не Савецкі Саюз. У яе, гэтай краіны, выраслі малочныя зубы. І нам хочацца гаварыць: новым голасам, пра нашае сёння. І чытаць тое, што ад яго застанецца.

**Паводле journalby.com**

**Домрачава: Ганаруся нашымі талентамі**

«Нобелеўская прэмія ў Беларусі! Святлана Алексіевіч, літаратура. Ганаруся нашымі талентамі!» — напісала Домрачава.

# Час second-hand

Святлана Алексіевіч. **Урывак з кнігі.**

Адна з частак апошняй па часе кнігі Святланы Алексіевіч «Час second-hand» прысвечаная падзеям мінскай Плошчы-2010. Прапануем яе вашай увазе.

**Таня Куляшова — студэнтка, 21 год**

## Хроніка пачуццяў

### «…ішлі весела, ішлі несур'ёзна»

— Прозвішча я называю не сваё, а маёй бабулі. Я баюся... вядома... Усе чакаюць нейкіх герояў, а я не гераіня. Я да гэтага не рыхтавалася. У турме я думала толькі пра маму, пра тое, што ў яе хворае сэрца. Што будзе з ёй? Хай мы пераможам, пра гэта напішуць у падручніках па гісторыі... А слёзы нашых сваякоў? Іх пакуты? Ідэя — магутная рэч, страшная, гэта сіла нематэрыяльная, яе нельга ўзважыць. Няма вагі... гэта іншая матэрыя... Нешта становіцца важнейшым за маму. Ты мусіш выбіраць. А ты не падрыхтаваная... Цяпер я ведаю, што такое ўвайсці ў свой пакой, калі кадэбісты пакорпаліся ў тваіх рэчах, кнігах... прачыталі твой дзённік... *(Маўчыць.)* Збіралася сёння да вас, і тут патэлефанавала мая мама, я сказала ёй, што сустракаюся з вядомай пісьменніцай, яна стала плакаць: «Маўчы. Нічога не расказвай». Падтрымліваюць мяне незнаёмыя людзі, а родныя, блізкія — не. Але яны любяць мяне...

Перад мітынгам... Збіраліся вечарам у інтэрнаце і спрачаліся. Пра жыццё і на гэтую тэму: хто ідзе на мітынг — хто не ідзе? Узгадаць гэта? Пра што гаварылі? Прыкладна так...

— Пойдзеш?

— Не пайду. Адлічаць з інстытута і заграбуць у войска. Буду бегаць з аўтаматам.

— А мяне, калі выганяць, бацька адразу аддасць замуж.

— Годзе балбатаць, час нешта рабіць. Калі ўсе будуць баяцца...

— Ты хочаш, каб я стаў Чэ Геварам? (Гэта словы майго ужо былога бойфрэнда, я пра яго таксама скажу.)

— Глыток свабоды...

— Я пайду, таму што надакучыла жыць пры дыктатуры. Трымаюць нас за быдла без мазгоў.

— Ну, а я не герой. Хачу вучыцца, кніжкі чытаць.

— Анекдот пра «саўка»: злосны, як сабака, а маўчыць, як рыба.

— Я маленькі чалавек, ад мяне нічога не залежыць. Я ніколі не хаджу на выбары.

— Я рэвалюцыянер... я пайду... Рэвалюцыя — кайф.

— Якія ў цябе рэвалюцыйныя ідэалы? Новая светлая будучыня — капіталізм? Няхай жыве лацінаамерыканская рэвалюцыя!

— У шаснаццаць гадоў я асуджаў бацькоў, яны ўвесь час чагосьці баяліся, бо ў таты кар'ера. Я думаў: яны дурні, а мы — крутыя такія! Мы выйдзем! Мы скажам! Цяпер я такі ж, як яны, канфарміст. Сапраўдны канфарміст. Паводле тэорыі Дарвіна, выжываюць не моцныя, а найбольш прыстасаваныя да асяроддзя. Выжывае пасрэднасць і працягвае род.

— Пайсці туды — значыць быць дурнем, не пайсці — яшчэ горш.

— Хто вам, тупым баранам, сказаў, што рэвалюцыя — гэта прагрэс? Я — за эвалюцыю.



— Мне што «белыя», што «чырвоныя»... Усё пофіг!

— Я — рэвалюцыянер...

— Няма сэнсу! Прыедуць вайсковыя машыны з лысымі мальцамі, і ты атрымаеш па галаве дубцом, вось і ўсё. Улада павінна быць жалезнай.

— Пайшоў ён на х...й, таварыш маўзер. Я нікому не абяцаў быць рэвалюцыянерам. Хачу скончыць інстытут і пачаць свой бізнэс.

— Выбух мозгу!

— Страх — гэта хвароба...

Ішлі весела, ішлі несур'ёзна. Шмат смяяліся, спявалі песні. Усе страшэнна падабаліся адно аднаму. Прыўзняты быў настрой. Хто з плакатам ідзе, хто з гітарай. Сябры тэлефанавалі нам на мабільнікі і паведамлялі, што пішуць у інтэрнэце. Мы былі ў курсе... Так даведаліся: двары ў цэнтры горада запоўненыя вайсковай тэхнікай з салдатамі і міліцыяй. Да горада падцягнулі войскі... У гэта верылася і не верылася, настрой вагаўся, але страху ніякага не было. Раптам страх знік. Ну па-першае, вунь колькі людзей... Дзясяткі тысяч! Вельмі розныя людзі. Ніколі нас не было так шмат. Я не памятаю...

А па-другое, мы ў сябе дома. У рэшце рэшт, гэта наш горад. Наша краіна. У Канстытуцыі запісаныя нашы правы: свабода сходаў, мітынгаў, дэманстрацый, шэсцяў... Свабода слова... Ёсць законы! Першае непалохана пакаленне. Нябітае. Нестралянае. А калі пасадзяць на пятнаццаць сутак? Хай сабе! Будзе пра што напісаць у ЖЖ. Няхай улада не думае, што мы статак, які бяздумна сунецца за пастухом!

Замест мазгоў у нас тэлевізар. На ўсялякі выпадак у мяне быў з сабою кубак, таму што я ўжо ведала: у турэмнай камеры адзін кубак на дзесяць чалавек. Яшчэ паклала ў заплечнік цёплы швэдар і два яблыкі. Ішлі і фатаграфавалі адно аднаго, каб запомніць гэты дзень.

У калядных масках, са смешнымі заечымі вушкамі, якія свяціліся... Кітайскія такія цацкі. Каляды неўзабаве... Ішоў снег... Якая ж прыгажосць! П'яных не бачыла ніводнага. Калі ў каго-небудзь з'яўлялася ў руках бляшанка піва, яе тут жа адбіралі і вылівалі. На даху аднаго дома заўважылі чалавека: «Снайпер! Снайпер!» Усе развесяліліся. Яму махалі: «Давай да нас! Скачы!» Клёва так. Раней у мяне апатыя была да палітыкі, я ніколі не думала, што ёсць такія пачуцці, і я магу іх зведаць. Я такое перажывала, толькі слухаючы музыку.

Музыка — гэта для мяне ўсё, гэта рэч незаменная. Было вельмі цікава. Са мной побач ішла жанчына... Чаму я не спытала ейнае прозвішча? Вы б пра яе напісалі. Я была занятая іншым — вакол весела, усё новае для мяне. Гэтая жанчына ішла з сынам, яму на выгляд гадоў дванаццаць. Школьнік. Міліцэйскі палкоўнік яе ўбачыў і аблаяў у мегафон ледзь не мацюкамі, што яна дрэнная маці. Вар'ятка. А ўсе сталі ёй і сыну пляскаць у далоні. Спантанна атрымалася, ніхто не дамаўляўся. Гэта так важна... так важна ведаць... Бо нам увесь час сорамна. Ва ўкраінцаў быў Майдан, у грузінаў — «рэвалюцыя ружаў». А з нас смяюцца: Мінск — камуністычная сталіца, апошняя дыктатура Еўропы. Цяпер я жыву з іншым пачуццём: мы выйшлі.

Не пабаяліся. Гэта галоўнае... гэта найгалоўнейшае...

Вось стаім: мы і яны. Тут адзін народ, там іншы. Гэта дзіўна выглядала... Адны з плакатамі і партрэтамі, а іншыя — у баявым парадку і ў поўнай экіпіроўцы, са шчытамі і дубінкамі. Стаялі плячыстыя хлопцы. Прыгажуны рэальныя! Ну як гэта яны пачнуць нас біць? Мяне біць? Мае аднагодкі, кавалеры. Факт! Сярод іх ёсць знаёмыя хлопчыкі з маёй вёскі, яны, вядома, тут. У нас шмат хто з'ехаў у Мінск і служыць у міліцыі: Колька Латушка, Алік Казначэеў... Нармальныя хлопцы. Такія ж, як і мы, толькі з пагонамі. І яны пойдуць на нас?

Не верылася... Ну ніяк... Смяяліся, фліртавалі з імі. Агітавалі: «Што, хлопцы, будзеце з народам ваяваць?» А снег ідзе і ідзе. І тут... Ну, быццам бы як на парадзе... Пачулася вайсковая каманда: «Рассякайце натоўп! Трымайце шыхт!» Мозг не ўрубаецца ў рэчаіснасць, не адразу... бо такога не можа быць... «Рассякайце натоўп...» На нейкі момант ціишыня. І тут жа грукат шчытоў... рытмічны грукат шчытоў... Яны пайшлі... шыхтамі ішлі і стукалі дубінкамі па шчытах, як паляўнічыя гоняць звера. Здабычу. Ішлі, ішлі і ішлі. Ніколі я не бачыла такой колькасці вайскоўцаў, толькі па тэлевізары. Я потым даведалася ад сваіх вясковых хлопцаў... Іх вучаць: «Самае страшнае, калі вы ўбачыце ў дэманстрантах людзей». Вымуштроўваюць, як сабак. *(Маўчыць.)*

Крыкі... плач... Крыкі: «Б'юць! Б'юць!» Я ўбачыла — б'юць. Ведаеце, яны з азартам білі. З задавальненнем. Я запомніла, што білі з задавальненнем... як быццам на трэніроўцы... Дзявочы віск: «Што ты робіш, вырадак!» Высокі-высокі голас. Сарваўся. Было так страшна, што я на нейкі момант заплюшчыла вочы. На мне белая куртка, белая шапачка. Стаю ўся ў белым.

### «Мордай у снег, сука!»

Аўтазак... Цуд-машына. Я ўпершыню яе там убачыла. Гэта спецыяльны фургон для перавозкі зняволеных. Усё абабіта сталлю.

«Мордай у снег, сука! Толькі кранешся — заб'ю!» Я ляжу на асфальце... Я ляжу не адна, усе нашыя тут... пуста ў галаве... думак няма...

Адзінае рэальнае адчуванне — холад. Штурхаюць, б'юць дубцамі, падымаюць і пхаюць у аўтазакі. Цяжэй за ўсё падлеткам, іх стараюцца біць па прамежнасцях: «Ты па яйцах яго бі, па яйцах! Па я...лу!» «Бі ў костку!», «Мачы іх!» Білі і па ходу справы філасофствавалі: «П...ц вашай рэвалюцыі!», «За колькі даляраў ты прадаў Радзіму, гад?» Аўтазак — два на пяць метраў — разлічаны на дваццаць чалавек, як сказалі дасведчаныя людзі, нас жа ўтрамбавалі больш за пяцьдзясят.

Трымайцеся, сардэчнікі і астматыкі! «У вокны не глядзець! Галовы ўніз!» Мацюкі... мацюкі... Праз нас, «прыдуркаў недаробленых», якія «прадаліся амерыкосам», якія сёння не паспелі на футбол. Іх цэлы дзень трымалі ў крытых машынах. Пад брызентам. Яны сцалі ў цэлафанавыя пакеты і прэзерватывы. Выскачылі галодныя, злосныя. Можа, яны самі па сабе неблагія людзі, але яны працуюць катамі.

Нармальныя з выгляду хлопцы. Маленькая шрубкі сістэмы. Біць — не біць, вырашаюць не яны, але б'юць яны... Спачатку б'юць, а потым думаюць, а можа, і не думаюць. *(Маўчыць.)* Доўга некуды ехалі, то наперад, то разварочваемся назад. Куды? Поўная невядомасць. Калі адчынілі дзверы, на пытанне: «Куды нас вязуць?» — атрымалі адказ: «У Курапаты» (месца масавых пахаванняў ахвяраў сталінскіх рэпрэсій). Такія ў іх садысцкія жарты. Нас доўга вазілі па горадзе, бо ўсе турмы былі перапоўненыя. Начавалі ў аўтазаку. На вуліцы дваццаць градусаў ніжэй за нуль, а мы ў жалезнай скрыні. *(Маўчыць.)* Я павінна іх ненавідзець. А я нікога не хачу ненавідзець. Я да гэтага не падрыхтаваная.

За ноч ахова некалькі разоў змянялася. Твараў не памятаю, яны ў форме ўсе аднолькавыя. А аднаго... Я яго і цяпер пазнала б на вуліцы, я пазнала б яго па вачах. Не стары і не малады, мужчына як мужчына, нічога асаблівага. Што ён рабіў? Ён расчыняў дзверы аўтазака насцеж і доўга трымаў іх так, яму падабалася, калі мы пачыналі дрыжэць ад холаду. Усе ў куртачках, боты танныя, мех штучны.

Глядзеў на нас і ўсміхаўся. У яго не было такога загаду, ён сам дзейнічаў. Па сваёй ініцыятыве. А іншы міліцыянт сунуў мне снікерс: «На, вазьмі. І чаго ты папёрлася на гэтую плошчу?» Кажуць, каб гэта зразумець, трэба чытаць Салжаніцына. Калі я вучылася ў школе, я брала ў бібліятэцы «Архіпелаг ГУЛАГ», але ён мне тады не зайшоў. Тоўстая і нудная кніга. Старонак пяцьдзясят прачытала і кінула...

Нешта далёкае-далёкае, як Траянская вайна. Сталін — збітая тэма. Я, мае сябры — мы мала ім цікавіліся...

Першае, што з табой адбываецца ў турме... З тваёй сумачкі вывальваюць на стол усе рэчы. Адчуванне? Нібы цябе распранаюць...

І ў літаральным сэнсе распранаюць таксама: «Зняць ніжнюю бялізну. Рассунуць ногі на шырыню плячэй. Прысесці». Што яны шукалі ў мяне ў анусе? Абыходзіліся з намі, як з вязнямі. «Тварам да сценкі! Глядзець у падлогу!» Увесь час загадвалі глядзець у падлогу. Ім страшна не падабалася, калі глядзіш у вочы: «Тварам да сценкі! Я ска-а-за-а-ў — тварам да сцяны!» Усюды строем... І ў прыбіральню вадзілі строем: «Пастроіцца ў калону адзін за адным». Каб усё гэта вытрымаць, я паставіла бар'ер: тут — мы, а тут — яны. Допыт, следчы, паказанні... На допыце: «Ты павінна напісаць: «Цалкам прызнаю сваю віну». — «А ў чым я вінаватая?» — «Ты што! Не разумееш? Ты ўдзельнічала ў масавых беспарадках...» — «Гэта была мірная акцыя пратэсту». Пачынаецца ціск: выключаць з інстытута, маму звольняць з працы. Як яна можа працаваць настаўніцай, калі ў яе такая дачка?

Мама! Я ўвесь час думала пра маму... Яны гэта зразумелі, і кожны допыт пачынаўся са слоў: «мама плача», «мама ў бальніцы». І зноў: назаві прозвішчы... Хто ішоў з табой побач? Хто раздаваў улёткі? Падпішы... назаві... Абяцаюць, што ніхто не будзе пра гэта ведаць і адразу адпусцяць дадому. Трэба выбіраць... «Я нічога вам не падпішу». А ўначы я плакала. Мама ў бальніцы... *(Маўчыць.)* Здраднікам стаць лёгка, бо маму любіш... Не ведаю, ці вытрымала б я яшчэ месяц.

Яны смяяліся: «Ну што, Зоя Касмадзям'янская?» Маладыя хлопцы, вясёлыя. *(Маўчыць.)* Мне страшна... Мы з імі ходзім у тыя ж крамы, сядзім у тых жа кавярнях, ездзім у адным метро. Усюды разам.

У звычайным жыцці няма выразнай мяжы паміж «намі» і «імі». Як іх вызначыць? *(Маўчыць.)* Раней я жыла ў добрым свеце, яго ўжо няма, і яго не будзе.

Цэлы месяц у камеры... За ўвесь гэты час ні разу не бачыла люстэрка. У мяне было маленькае, але яно пасля дагляду рэчаў знікла з сумачкі. І партманэтка з грашыма знікла. Піць увесь час хацелася.

Невыносная смага! Піць давалі толькі разам з ежай, а ў астатні час: «Піце з прыбіральні». Іржуць. Самі п'юць фанту. Мне здавалася, што я ніколі не спатолю смагу, на волі застаўлю халадзільнік мінералкай.

Мы ўсе смярдзючыя... памыцца няма дзе... У кагосьці знайшоўся маленькі флакончык духоў, перадавалі адна адной і нюхалі. А дзесьці нашыя сябры пішуць канспекты, сядзяць у бібліятэцы. Здаюць залікі.

Успаміналася чамусьці рознае глупства... Новая сукенка, якую я ні разу не апранула... *(Засмяялася.)* Даведалася, што радасць прыносіць такая дробязь, як цукар ці кавалачак мыла. У камеры на пяць чалавек — трыццаць два квадратныя метры, нас сядзела сямнаццаць. Трэба было навучыцца жыць на двух метрах. Асабліва цяжка было ўначы, дыхаць няма чым. Доўга не спалі. Размаўлялі. Першыя дні пра палітыку, а потым толькі пра каханне.

**Пераклад з расійскай Валерыя Стралко і Ціхана Чарнякевіча**

# Ярмошына назвала рэкордную перамогу Лукашэнкі

Галасы лічылі **як заўсёды**.

Прэзідэнцкія выбары — 2015 не здзівілі ані асобай, якую абвесцілі пераможцам, ані агульнай арганізацыяй працэсу. Назіральнікі АБСЕ адзначылі некаторыя паляпшэнні і «ветлівае стаўленне» да місіі. Але «значныя праблемы, асабліва падчас падліку і звядзення вынікаў галасавання, падарвалі сумленнасць выбараў», адзначаецца ў дакладзе. Місія АБСЕ падчас падліку галасоў убачыла тое самае, што і беларускія назіральнікі, — спіны сяброў камісій.

Вынік выбараў, агучаны Лідзіяй Ярмошынай: 83,5% у Аляксандра Лукашэнкі і 4,4% у Таццяны Караткевіч (гэта папярэднія лічбы, яны яшчэ могуць змяніцца на долі працэнтаў).

Гэта неймаверныя лічбы для краіны, у якой, паводле незалежных сацыялагічных даследаванняў, каля чвэрці насельніцтва падтрымлівае дэмакратычную апазіцыю. Ды і за Лукашэнку ніколі яшчэ так масава не галасавалі. І гэта на фоне эканамічнага крызісу і падзення заробкаў.

Назіральнікі мяркуюць, што лічбы галасавання могуць скажацца на двух этапах.

Першасны падлік галасоў адбываецца на ўчастках. Старшыня камісіі, у залежнасці ад свайго сумлення, вырашае, ці дапускаць назіральнікаў да стала з бюлетэнямі. Калі ж у яго такога жадання няма, даведацца рэальную карціну немагчыма (падрабязнасці на старонцы 9).

Аднак на ўчастках, дзе падлік праводзіўся адкрыта, вынікі выбараў адрозніваюцца прынцыпова ад канчатковых лічбаў па раёне і вобласці.

Параўнайце табліцы з дадзенымі па Рагачове, Маладзечне і Баранавічах.

Падчас датэрміновага галасавання падтрымка Лукашэнкі была істотна вышэйшай, чым непасрэдна ў дзень галасавання.

**Пратакол з участка ў Глыбокім. Пры вялізнай датэрміновай яўцы (40%) за Лукашэнку прагаласавалі 62,3%, за Караткевіч — 25,1%. Агулам па Глыбоцкім раёне ЦВК запісаў Лукашэнку 85%, а Караткевіч — 8%.**

**Тым не менш**

Рада Еўрасаюза прыняла рашэнне прыпыніць на 4 месяцы дзеянне санкцый у дачыненні да Беларусі. Візавыя абмежаванні застануцца толькі ў адносінах да Шэймана, Сівакова, Навумава і Паўлічэнкі, якіх падазраюць у дачыненні да знікнення палітыкаў.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

| | | Баранавічы | | Рагачоўскі раён | | Маладзечанскі раён | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Участак №38 Баранавічаў | Вынік* | Участак №11 Рагачова | Вынік* | Участак №6 Маладзечна | Участак №11 Маладзечна | Участак №4 Маладзечна | Вынік* |
| 1 | **Лукашэнка** | 64,8% | 79,5% | 65,3% | 88,6% | 68,2% | 69,1% | 54,3% | 81,3% |
| 2 | **Караткевіч** | 22,3% | 5,6% | 25% | 2,2% | 18,6% | 16,4% | 30,3% | 5,8% |
| 3 | **Супраць усіх** | 6,9% | 9,2% | 5,2% | 3,7% | 6,4% | 8,7% | 9,2% | 7,3% |
| 4 | **Гайдукевіч** | 2,2% | 3,2% | 2,5% | 3% | 3,2% | 2,8% | 2,5% | 2,4% |
| 5 | **Улаховіч** | 2,9% | 1,8% | 0,6% | 1,9% | 1,8% | 1,9% | 0,9% | 1,4% |

* Афіцыйны вынік галасавання па горадзе/раёне.

Атрыманыя з сотняў участкаў вынікі галасавання перадаюцца ў раённыя тэрытарыяльныя камісіі, а адтуль — у абласныя. На гэтым этапе адсачыць праўдзівасць апрацаванай і перададзенай інфармацыі не ўяўляецца магчымым, бо ў тэрытарыяльных камісіях няма прадстаўнікоў апазіцыі.

**Ягор Марціновіч**

# Як Цэнтрвыбаркам перамагаў тэорыю імавернасці

Лічбы ў пратаколах **выглядаюць падазронымі** з матэматычнага пункту гледжання.

Цэнтрвыбаркам апублікаваў вынікі галасавання па рэгіёнах. Некаторыя з лічбаў пратаколаў выглядаюць нетлумачальнымі. Галоўны вораг падлікаў Ярмошынай — тэорыя імавернасці.

Блогеры, якія аналізавалі апублікаваныя вынікі, выказваюць здагадку, што выбары не былі сфальсіфікаваныя, а лічбы проста былі ўзятыя са столі. На чым грунтуецца іх меркаванне? Прыводзім некалькі пацверджанняў.

## 1. Брэст спіць, Віцебск галасуе

У дзень выбараў Цэнтрвыбаркам кожныя дзве гадзіны называў яўку выбарцаў па кожнай з абласцей. Гэтыя лічбы мусяць быць прапарцыйнымі. Малаімаверна, што на Магілёўшчыне ўсе галасуюць ураніцы, а на Віцебшчыне — увечары. Выключэннем заўсёды становіцца Мінск, бо гарадское насельніцтва мае адрозныя паводзіны.

Але лічбы Ярмошынай скачуць проста шалёна. Напрыклад, у першыя дзве гадзіны выбараў на Віцебшчыне прагаласавала 11% выбарцаў. А на Берасцейшчыне ў гэты час — толькі 4,3%.

Магілёўшчына «прачнулася» з 14 да 16 гадзін, калі на ўчастку прыйшло 27% выбарцаў (напрыклад, на Гомельшчыне — 13%).

А пад канец дня без дай прычыны актывізавалася Гродзеншчына — 11% (у суседняй Брэстчыне — 7%).

## 2. Не дамовіліся, як лічыць Гайдукевіча

У заходняй навуцы ёсць глыбінныя даследаванні па электаральнай геаграфіі. Як тэрытарыяльныя адрозненні ўплываюць на перавагі выбарцаў?

Прыярытэты таго ці іншага рэгіёна тлумачаца сацыяльна-эканамічнымі ці культурнымі прычынамі. Напрыклад, у 1994 годзе на ўсходзе Беларусі за Зянона Пазняка галасавала менш за 5% выбарцаў, а на захадзе лічбы плаўна выраслі аж да 40%. Любая карта электаральнай геаграфіі выглядае плаўнай.

Немагчыма, каб у адным раёне горада за кандыдата прагаласавала адна доля выбарцаў, а ў суседнім — удвая большая.

А вось у Сяргея Гайдукевіча атрымалася. У Кастрычніцкім раёне Віцебска за яго прагаласавала 3,9% выбарцаў (столькі ж, дарэчы, і ў ваколіцах горада, у Віцебскім раёне). У Чыгуначным раёне — 4,5%. Гэта дапушчальная розніца. А вось у Першамайскім раёне, аддзеленым ракой, яму напісалі ажно 8,5%.

## 3. Лічбы пад капірку

Стабільнай краіне — стабільныя вынікі. Лічбы ў суседніх раёнах звычайна адрозніваюцца не моцна. Але яны ж не могуць быць і зусім аднолькавымі!

Возьмем для прыкладу Гродзеншчыну. У васьмі сельскіх раёнах (агулам іх 17) за Лукашэнку прагаласавала 93%—93,1%.

Падобная сітуацыя і на Віцебшчыне. У пяці раёнах кіраўніка дзяржавы падтрымалі 90%—90,1%.

Але ж Віцебшчына — надзвычай неаднародная вобласць! Напрыклад, на прэзідэнцкіх выбарах 1994 года ў Браслаўскім раёне перамог Зянон Пазняк, а ў Лёзненскім раёне Лукашэнка ўжо тады меў больш за 80%. Цяпер жа ЦВК запісвае гэтым раёнам аднолькавы вынік.

У некаторых раёнах Брэстчыны пад капірку запісаныя не толькі вынікі Лукашэнкі, але і астатнія лічбы. У Драгічынскім, Жабінкаўскім і Янаўскім раёнах яўка склала 97,2%—97,5%. Кіраўнік дзяржавы ва ўсіх гэтых раёнах набраў раўнюткія 94,1%, а падтрымка Гайдукевіча склала 1,22—1,25%.

## 4. Ва Улаховіча канчаткова зніклі выбарцы

Удзел «казацкага атамана» Мікалая Улаховіча ў выбарах ад пачатку мог падацца памылкай. Маладомы кандыдат нібыта прынёс у тэрытарыяльныя камісіі 150 тысяч праўдзівых подпісаў, не праводзячы актыўнай кампаніі па зборы.

Аднак на выбарах за Улаховіча агулам прагаласавала менш, усяго... 102 тысячы чалавек. Фармальна ў гэтым няма ніякіх парушэнняў, бо выбарцы маглі падпісвацца адразу за некалькіх прэтэндэнтаў.

Але «падтрымка» Улаховіча па асобных раёнах выклікае сумную ўсмешку: напрыклад, у Брагінскім раёне за яго прагаласавала толькі 17 чалавек.

Выключэннем стаў толькі Мінскі раён, дзе «атаман» раптам ледзь не выйшаў на другое месца, амаль дацягнуўшы да 5%.

## 5. Забылі пра несапраўдныя бюлетэні

З мільёнаў людзей, якія бяруць удзел у выбарах, сустракаецца нямала «жартаўнікоў». Нехта адзначыць адразу некалькі кандыдатаў, нехта — ніводнага. Іншы дапіша ў бюлетэнь прозвішча Статкевіча... Факт у тым, што амаль на кожным участку па выніках выбараў фіксуецца хаця б некалькі несапраўдных бюлетэняў. Гэта сусветная практыка, у гэтым няма нічога заганнага.

Але ў Беларусі бываюць анамальныя зоны. Напрыклад, на ўвесь Пружанскі раён участковыя камісіі не выявілі ніводнага (!) несапраўднага бюлетэня. Столькі ж выбарцаў, каля 37 тысяч, было ў Пінскім раёне (за выняткам самога Пінска). Але там налічылі 237 сапсаваных бюлетэняў.

## 6. Мінск анамальна «супраць усіх»

У пэўных сітуацыях апазіцыйныя сілы могуць заклікаць да пратэстнага галасавання — абіраць варыянт «супраць усіх».

Паводле афіцыйных падлікаў, у большасці рэгіёнаў колькасць такіх бюлетэняў складала 2—3%. Гарадское насельніцтва больш схільнае да пратэстнага галасавання, у асобных гарадах колькасць «супраць усіх» падыходзіла да 10%.

А вось у межах Мінска адбыўся сацыялагічны выбух. Тут «супраць усіх» нібыта прагаласавала каля 20% чалавек і нават больш! На папярэдніх прэзідэнцкіх выбарах лічба ў сталіца была ўдвая меншай.

## 7. Нароўля — як Паўночная Карэя

У Нараўлянскім раёне ўдалося пабіць адразу некалькі рэкордаў.

Па-першае, гэта яўка. На ўчастки прыйшло 98,35% зарэгістраваных выбарцаў!

Па-другое, за Лукашэнку прагаласавала 98,39% з іх. Такія лічбы рэдка дзе сустрэнеш нават на выбарах азіяцкіх дыктатараў. Апанентам Лукашэнкі запісалі па 0,2—0,3%.

Нездарма старшыня Нараўлянскага райвыканкама Валерый Шляга застаецца пры пасадзе ўжо амаль дваццаць гадоў.

**Ягор Марціновіч**

# Беларускія выбары: парушэнні, прымусы і загадзя вядомы вынік

Калі падлік галасоў вядзецца за спінамі камісіі, застаецца толькі паклапаціцца пра яўку выбарцаў. Пажадана — датэрміновую. У асобных раёнах больш за 50% выбарцаў настолькі хацелі прагаласаваць, што не дачакаліся дня выбараў.

У цэлым па краіне датэрміновая яўка дасягнула рэкордных 36%. Рэкордную лічбу забяспечыла сабе сама ўлада.

### Сходзі на ўчастак і не хадзі на вучобу

За тыдзень да выбараў усіх, каго можна было, проста зганялі на ўчасткі. Асабліва гэта тычылася супрацоўнікаў дзяржаўных прамысловых прадпрыемстваў і студэнцтва.

Скаргі на тое, што адміністрацыя адкрыта прымушае паўдзельнічаць у датэрміновым галасаванні, прыходзілі з розных месцаў. Супрацоўнік МТЗ паведаміў, што ўсіх рабочых, хто жыве ў інтэрнаце, заклікалі наведаць участкі да 11 кастрычніка. На «Мінскаблнафтапрадукце», што знаходзіцца ў Фаніпалі, у выпадку адмовы галасаваць датэрмінова работнікам пагражалі мерамі аж да скасавання працоўнага кантракта. Затое калі прагаласуеш, у пятніцу можна будзе сысці з працы пасля абеду.

Паведамленні аб прымусе ішлі і з універсітэтаў. У асноўным студэнтаў палохалі праблемамі з захаваннем месца ў інтэрнаце. А ў якасці перніка выкарыстоўвалі ажно тры выхадныя, якія можна будзе скарыстаць для паездкі да бацькоў. У некаторых навучальных установах можна было «прагуляць» і панядзелак.

Адміністрацыя ВНУ пільна сачыла за працэсам галасавання. Так, студэнты Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта паскардзіліся, што іх прымушаюць галасаваць датэрмінова.

Неаднаразова назральнікі адзначалі, што тыя ж студэнты ці працоўныя калектывы ішлі галасаваць арганізаванымі групамі на чале з куратарамі ці начальнікам. Здаралася, што людзей прывозілі на ўчасткі ў працоўны час на выдзеленым прадпрыемствам транспарце.

### Не спадабаўся камісіі — выкінулі з участка

Падчас і датэрміновых, і «звычайных» выбараў таксама хапала парушэнняў. Напрыклад, каб назіральніку пазбавіцца акрэдытацыі, дастаткова было проста не спадабацца камісіі. А гэта, як высветлілася, не цяжка.

Напрыклад, чатыры назіральнікі з ініцыятывы #87працэнтаў два дні вялі анлайн-трансляцыю з выбарчага ўчастка № 10 у Першамайскім раёне Мінска. Навіны з участка яны публікавалі ў сацыяльных сетках. Таксама назіральнікі хацелі ўсталяваць відэакамеру насупраць скрыні для галасавання, але камісія забараніла і пазбавіла акрэдытацыі назіральніка Пятра Маркелава. «Там была назіральніца, якая замест таго, каб назіраць за выбарамі, назірала за намі. Пісала на нас заявы, скаргі, акты», — расказвае Маркелаў.

### Фантомныя выбаршчыкі

Назіральнікі адзначалі разыходжанні з камісіямі па колькасці тых, хто прагаласаваў. На паперы ўдзельнікаў галасавання было больш, чым тых, хто рэальна прыйшоў на ўчастак.

Напрыклад, у першы дзень галасавання на баранавіцкім участку № 20 назіральнікі налічылі 39 выбарцаў. У пратаколе ж камісія запісала, што бюлетэні атрымалі 143 чалавекі. На другі дзень сітуацыя паўтарылася — 87 і 146 чалавек адпаведна.

Падобная сітуацыя, на жаль, не адзіная. На ўчастку №61 Першамайскага раёна Віцебска камісія «знайшла» за ноч 100 бюлетэняў.

«Паводле пратакола, вывешанага на ўчастку пасля першага дня датэрміновага галасавання, было выдадзена 2050 бюлетэняў. Добра, што я яго сфатаграфаваў! Бо на наступную раніцу, перад пачаткам галасавання, пратакол быў ужо іншы — колькасць атрыманых бюлетэняў вырасла да 2150 штук», — кажа назіральнік Павел Левінаў.

Лідзія Ярмошына назвала такія выпадкі «правакацыяй». Праўда, выказалася яна гэтак не ў бок камісій, а ў бок назіральнікаў.



Скрыні на многіх участках былі празрыстыя. А вось працэс падліку галасоў?



Прадстаўнікі пралукашэнкаўскіх «фондаў міру» сачылі не за выбарамі, а за незалежнымі назіральнікамі.

### Галоўны — гарвыканкам

Віктар Сырыца з Баранавічаў маляўніча распавёў пра тое, як праходзілі выбары ў асобна ўзятым горадзе.

«Я быў адзіным з 13 сяброў Баранавіцкай гарадской выбарчай камісіі, хто галасаваў супраць зацвярджэння выніковага пратакола і адлюстраваў у ім сваё асаблівае меркаванне па выбарах», — кажа Сырыца.

Па яго словах, усе дадзеныя аб выбарах з участкаў паступалі не на тэлефон гарадской выбарчай камісіі, а на тэлефоны ідэалагічнага аддзела гарвыканкама. А ўсе структурныя падраздзяленні прадпрыемстваў і ўстаноў горада штодня да 10.00 павінны былі паведамляць у свае ідэалагічныя аддзелы колькасці прагаласаваўшых датэрмінова. У сваю чаргу аддзелы кадраў і галоўныя ідэолагі прадпрыемстваў падавалі адпаведную інфармацыю не ў выбаркам, а ў Баранавіцкі гарвыканкам.

У выбарчую гарадскую камісію паступіла 9 скаргаў ад незалежных назіральнікаў пра падробку выбарчых дакументаў на некалькіх участках. З кіраўнікоў гэтых выбарчых участкаў былі ўзятыя пісьмовыя тлумачэнні, аднак камісія іх не разглядала. Першае пасяджэнне камісіі па скаргах адбылося ўжо пасля выбараў, ноччу 12 кастрычніка.

«Старшыні гарадскіх участковых камісій з выніковым пратаколам выбараў спачатку наведвалі кабінет Мікалая Хітрыка, кіраўніка справамі гарвыканкама, а толькі затым здавалі гэты дакумент гарадской выбарчай камісіі», — сцвярджае Сырыца.

Па яго словах, усе члены гарадской выбарчай камісіі былі падзелены на 4 групы і знаходзіліся ў розных кабінетах гарвыканкама. «Такім чынам, яны атрымлівалі частку выніковых пратаколаў і бюлетэняў для галасавання. Толькі старшыня камісіі Тамара Шукала хадзіла па гэтых кабінетах і збірала выніковыя пратаколы. Гэтыя дакументы яна дастаўляла ў ідэалагічны аддзел, дзе два супрацоўнікі гарвыканкама рыхтавалі выніковы пратакол. Астатнія 11 членаў камісіі былі толькі пасіўнымі назіральнікамі і выконвалі тэхнічныя даручэнні».

«Лічу, што прэзідэнцкімі выбарамі 11 кастрычніка ў Баранавічах кіравала не гарадская тэрытарыяльная выбарчая камісія (ТВК), а гарвыканкам. Сябры ТВК падпісалі пратакол, не ведаючы канкрэтных дадзеных, якія, магчыма, былі «адкарэктаваныя» ідэалагічным аддзелам. Лічу, што ўсё гэта з'яўляецца грубым парушэннем заканадаўства Беларусі і паўплывала на вынікі прэзідэнцкіх выбараў», — падкрэслівае Сырыца.

**Улад Швядовіч**

## Грузавік ад старшыні камісіі

З абсурднай сітуацыяй сутыкнуўся Валянцін Міхальцоў. Ён быў назіральнікам на ўчастку №18 Цэнтральнага раёна, які знаходзіўся ў памяшканні Мінскай шпалернай фабрыкі.

У будынку няма ўстаноў, якія працуюць у нядзелю. Таму Міхальцоў пакінуў уключаным у сваім аўто, прыпаркаваным на стаянцы каля фабрыкі, відэарэгістратар, каб фіксаваць колькасць чалавек, якія заходзілі ў будынак, а значыць, і на ўчастак.

Як выявілася, старшыня камісіі Сяргей Лузін (адзін з кіраўнікоў фабрыкі) убачыў уключаны відэарэгістратар. Таму ён загадаў... падагнаць грузавік, каб той перакрыў агляд з машыны Міхальцова.

Праз паўтары гадзіны па патрабаванні ДАІ грузавік удалося адагнаць, аднак непарыўнасць запісу была парушаная.

Колькасць выбарцаў, якія нібыта атрымалі бюлетэні, адрозніваліся ад той, што налічылі назіральнікі, больш чым на 60%.

Падлік бюлетэняў быў закрыты спінамі. У выніковым пратаколе запісана, што Лукашэнка набраў 69%, а яшчэ каля 20% былі «супраць усіх».

**Паводле Tut.by**

## Пустыя аркушы зніклі са скрыні

На выбарчым участку №60 Маскоўскага раёна Брэста, паводле назіральнікаў, былі выяўленыя махінацыі з бюлетэнямі.

Сябар руху «За Свабоду» Дзяніс Турчаняк прыйшоў галасаваць датэрмінова. Аднак ён апусціў у скрыню не бюлетэнь, а прынесены з сабой чысты аркуш паперы. Гэтаксама зрабілі трое сяброў Турчаняка. У дзень выбараў актывіст зарэгістраваўся ў якасці назіральніка, каб на свае вочы пабачыць падлік.

Паводле звестак камісіі, удзел у выбарах узялі 365 чалавек. Значыць, у скрыні магло быць не больш за 361 бюлетэнь, бо яшчэ чатыры бюлетэні з подпісамі сяброў участковай камісіі былі ў Турчаняка з сабой.

Аднак у скрыні датэрміновага галасавання ніводнага чыстага аркуша не знайшлося! Турчаняк робіць выснову, што яны былі заменены на фальшывыя бюлетэні.

Актывіст звярнуўся ў пракуратуру з просьбай завесці крымінальную справу «паводле факта падробкі дакументаў падчас выбараў і заведама няправільнага падліку галасоў».

**Паводле «Рух.бай»**

## Замест 587 — 80

Пра фальсіфікацыі загаварыла... сябра адной з выбарчых камісій Віцебска. Яе запрасілі працаваць на выбары як прадстаўніка ад свайго прадпрыемства. Пасля падлікаў выніковыя лічбы былі пазначаны на стосах з бюлетэнямі.

Сябра камісіі сфатаграфавала іх. На здымку ўказаныя тры лічбы — датэрміновага галасавання, надомнага і ў дзень выбараў. У Караткевіч было 204+1+382. Агулам у яе падтрымку было аддадзена 587 галасоў.

Аднак у выніковы пратакол старшыня камісіі запісала толькі... 80 галасоў за Караткевіч.

**Паводле «Еўрарадыё»**

# Павел Тапузідзіс: «Праз два гады я стану

Я прыходжу на ўчастак №69 на вуліцы Пімена Панчанкі за некалькі гадзін да закрыцця. Да старшыні камісіі, мільянера Паўла Тапудзідзіса, якраз прыехала здымачная група АНТ. Уласнік «Тытунь-Інвеста» расказвае пра свабоднае выяўленне волі народа. Журналіст, які выконвае ролю трымальніка мікрафона, маўкліва пагаджаецца з бізнэсменам.

Праз некалькі хвілін гасцінны гаспадар заводзіць гасцей у кабінет крэслення. Тут накрыты багаты стол з далікатэсамі ад «Кароны». Тапузідзіс налівае сабе і журналісту АНТ каньяк (аператар адмаўляецца) і ўздымае тост: «Ну, за Беларусь!». Да ўсіх прысутных ён звяртаецца на «Вы».

Побач з мільянерам сядзіць Аляксандр Скубакоў, былы наместнік кіраўніка адміністрацыі Цэнтральнага раёна Мінска. Цяпер гэты немалады мужчына — адзін з падначаленых Тапузідзіса. Шэф ласкава называе яго «мальчуган». Да мяне Скубакоў звяртаецца на «ты».

Некалькі разоў за размову Тапузідзіс перапытвае ў сваіх калег незразумелыя яму словы, але ў цэлым разумее па-беларуску. Аднойчы нават прадэманстраваў веданне прымавак. Вы ведаеце, які адпаведнік мае фраза «Над крылечком дым колечком»? А грэк Тапузідзіс ведае. «Над ганкам дым абаранкам», — пратэсціраваў ён мяне і сяброў камісіі.

### «Я не стаў мяняць прозвішча з Тапузідзіса на Тапурыдзэ»

Першае пытанне да Тапузідзіса выглядае рытарычным: «Ніхто іншы — ні Чыж, ні Машэнскі — не лічаць бюлетэні. А вы вось праяўляеце сваю грамадзянскую пазіцыю. Чаму?»

Тапузідзіс аджартоўваецца: «Я добра ведаю Чыжа. Я думаю, яму хапае, як праяўляць сваю грамадзянскую пазіцыю. Асабліва яму. А Машэнскі яшчэ малады».

«Насамрэч мне проста цікава, — тлумачыць Тапузідзіс. — Удзел у прэзідэнцкіх выбарах — гэта, з аднаго боку, грамадзянская пазіцыя, а з іншага — грамадзянская адказнасць».

«А вы б не хацелі ў дэпутаты ці сенатары ісці. Гэта ж яшчэ большая грамадзянская пазіцыя?» — удакладняю ў яго.

«Я зарабляю грошы. Мая праца — бізнэс. Мая задача — зрабіць усё, каб дзясяткі тысяч работнікаў працавалі спакойна, атрымлівалі два разы на месяц зарплату і не баяліся, што заўтра іх выганяць на вуліцу. Гэта мой першы абавязак. Калі трэба для гэтага ў сенатары пайсці... Ну, я ж не Шакуцін. Аляксандр Міхайлавіч — своеасаблівы чалавек. Яму трэба, каб у яго значок быў», — адказвае мільянер.

Тут Тапузідзіс паказаў на свой пінжак, да якога быў прышпілены значок з выявай савецкага сцяга.

«І што вы хацелі гэтым сказаць? — разгубіўся я. — Некалькі хвілін таму вы падымалі тост за Беларусь. А самі ў касцюме не са сцягам Беларусі, а з СССР?»

«Гэта нельга параўноўваць. Папершае, я нарадзіўся і вырас у Савецкім Саюзе. Я прыехаў у Беларусь, бо як грэк у Грузіі я мог паступіць хіба што ў які-небудзь кулінарны тэхнікум. Трэба было прозвішча мяняць, з Тапузідзіса на Тапурыдзэ. Такія былі часы. Пры гэтым я абсалютна шчыра пісаў заяву, каб паехаць у Афганістан... Капіталізм мы лічылі ворагам! — узгадвае Тапузідзіс. — Па-другое, я нашу значкі не для таго, каб паказаць, што камусьці сімпатызую. Проста калекцыяную іх. На кожным касцюме свой значок».

### Звольнілі, бо зашмат зарабляў

Тапузідзіс расказвае пра трагічны лёс свайго народа і сваёй сям'і.

У пачатку XX стагоддзя дзясяткі тысяч грэкаў былі вымушаны сысці з роднай зямлі (цяпер гэта тэрыторыя Турцыі). Частка насельніцтва пагадзілася перайсці ў іслам, і таму засталася, а вось продкі Тапузідзіса апынуліся ў цяперашняй Грузіі.

У Беларусі будучы мільянер займаўся будаўніцтвам мастоў, але ў 1987 годзе быў звольнены, бо «ў тыя гады нельга было шмат зарабляць». Тады ў Рудзенску ён заснаваў кааператыў па вытворчасці пахавальных кветак.

Аднак асноўнае багацце Тапузідзіс зрабіў на вытворчасці тытуню і сетцы гіпермаркетаў «Карона».

## Я тут, бо б'юся за свой бізнэс

Паколькі на цыгарэтным рынку працуюць толькі Тапузідзіс і дзяржаўная гродзенская фабрыка «Нёман», паўстае лагічнае пытанне: ці можна лічыць, што ягоны бізнэс паўстаў дзякуючы дзяржаве ці прынамсі з маўклівай згоды ўладаў?

Бізнэсмен запэўнівае, што гэта не так. Ён расказвае, што яшчэ ў пачатку 1990-х стварыў прадпрыемства «Прыма» і выпускаў цыгарэты «Беламорканал». Такая вытворчасць стала першай на рынку. Гісторыю стварэння Тапузідзіс апісвае проста — гандляваў цыгарэтамі і падумаў: чаму б не рабіць іх самому? Праўда, пасля ўвядзення дзяржаўнай манаполіі бізнэс быў знішчаны.

Другая спроба адбылася ў 1996 годзе, калі Тапузідзіс атрымаў ліцэнзію на выпуск цыгарэт. Такі дакумент, кажа ён, мог атрымаць любы ахвотны.

У чым тады быў феномен Тапузідзіса? Мільянер пачынае пералічваць складнікі свайго поспеху: хацець, разумець, быць цярплівым і каб былі грошы. Маўляў, трэба, каб усё гэта супала.

«Каб рабіць гэты бізнэс, трэба было проста ўзяць яго — і зрабіць, — тлумачыць ён. — Людзі ў асноўным тады займаліся гандлем, не вытворчасцю. А ў мяне перад «табачкай» былі і пахавальныя кветкі, і цацкі, і самалёцікі... Вось вы мадэлямі захапляецеся?»

Да мадэлявання я стаўлюся абыякава. Кажу, што больш падабаецца футбол.

«А я не люблю спорт, — прызнаецца Тапузідзіс. — Я на яго столькі грошай патраціў, дзясяткі мільёнаў! Я пабудаваў тры хакейныя палацы».

«А што, не хацелі?» — удакладняю я.

«Што за пытанне? — узрываецца мільянер. — Вось вы цярпліва мяне слухаеце. Нават калі я пачну абражаць вас, вы ўсё адно будзеце мяне слухаць. Таму што гэта ваша праца і вы хочаце нешта спытаць. Тое самае і бізнэс. Калі вы хочаце яго прасоўваць: трэба — вы пабудуеце і лядовы палац... Я абсалютна добраахвотна купляў у раддом апарат для пералівання крыві, калі ў 1990-я паміралі нашыя немаўляты. І ў любой краіне так. Мае прыяцелі — і немцы, і галандцы — таксама ўдзельнічаюць».

### «Я гатовы адстойваць пазіцыю перад прэзідэнтам»

Тапузідзіс кліча ўдзельнікаў дыскусіі на перакур. Папярэджваю, што не куру. «Дарма. Вы ж тады нам не прыносіце прыбытак!» — жартуе бізнэсмен.

Стаяць з цыгарэтай на ганку Тапузідзіс не хоча, таму адводзіць грамаду за рог школы.

Калі вяртаемся ў школу, на ўваходзе бачым грузавік «Гіпа», у які загружаюць непрададзены за дзень выбараў тавар. Чаму не «Карона», а сетка-супернік?

«Нехта прыняў рашэнне гандляваць гарэлкай. А я сказаў, што не магу прывесці сюды «Карону» і на вуліцы разліваць алкаголь. Дурныя рэчы я не выконваю. Я гатовы адстойваць сваю пазіцыю на любым узроўні, нават перад прэзідэнтам. Напрыклад, апошняя нарада, калі нам забаранілі гандляваць півам і гарэлкай пасля 22.00, — прыводзіць прыклад Тапузідзіс. — Я ўстаў і сказаў: Аляксандр Рыгоравіч, гэта няправільна. І ён адразу ж са мной пагадзіўся, і рашэнне было адменена. Ці пра сертыфікаты. Я казаў: людзей трэба прывучаць, спажывец, купляючы куртку, павінен быць упэўнены ў якасці тэрмаапрацоўкі. І там адстаяў, і там адстаяў. А як па-іншаму?»

«У мяне няма бізнэсу, які я атрымаў ад дзяржавы. Ніводнага квадратнага метра, пабудаванага

## Я не люблю спорт, я на яго столькі грошай патраціў, дзясяткі мільёнаў!

дзяржавай, я не купіў і не атрымаў рашэннем прэзідэнта», — неаднаразова падчас размовы падкрэсліў ён.

### «Вядома, немагчыма. А навошта?»

Летась «Наша Ніва» пісала пра рэзідэнцыю Тапузідзіса на возеры Мядзел. «Тытунь-Інвест» пабудаваў аздараўленчы комплекс, але адпачыць турысту там немагчыма.

— Вядома, немагчыма. А навошта? — шчыра не разумее ён.

— Дык для якіх гэта турыстаў? — удакладняю я.

— Гэта для сябе я пабудаваў. А што ў гэтым дрэннага?

— Гэта ж няроўныя ўмовы. Вы ўзялі для сябе зямлю, а іншыя не могуць.

— Я ж таксама не звычайны грамадзянін. Калі б вы аказалі дапамогі мільёнаў на 30—40... Вы трошкі блытаеце паняцці. Калі вы станеце вялікім журналістам, вам таксама, можа, дадуць зямлю, і вы пабудуеце сабе дамок.

Ад патэнцыйнага падарунка я адмаўляюся, а Тапузідзіс тлумачыць, што такая самая практыка ёсць і ў іншых краінах.

Мільянер мае катэдж у Драздах, але да выдзялення элітнай зямлі ставіцца з негатывам. Маўляў, ён на свой дом зарабіў, а яны?

### «Трэба, каб з'явіўся выбар»

Ці праўдзівыя лічбы яўкі на выбарах?

Тапузідзіс запэўнівае, што людзі актыўна ідуць на ўчастак. Разыходжанняў у афіцыйных лічбах і лічбах назіральніка ад «Гавары праўду» насамрэч не было. Выніковая яўка склала 75% (29% прагаласавала датэрмінова — гэта сярэдняя лічба па Мінску). Тапузідзіс пытаецца, чаму я не пайшоў на выбары.

«Няма кандыдата, за якога мне не было б сорамна», — адказваю яму.

«Менавіта вам? То бок трэба кандыдата менавіта пад вас падабраць? Так жа таксама нельга. Калі ў вас няма, за каго галасаваць, трэба было прыйсці і прагаласаваць супраць усіх», — раіць Тапузідзіс.

Сам ён прагаласаваў датэрмінова. Кажа, што цэніць стабільнасць.

Размаўляем пра палітычную альтэрнатыву. «Трэба, каб з'явіўся лідар, які б спадабаўся ўсім, і людзі пойдуць за гэтым лідарам. У 1994 годзе я быў на выбарах памочнікам старшыні камісіі, і бачыў, як людзі галасавалі не за, а супраць улады», — узгадвае мільянер.

Узгадваю гісторыю Віктара Ганчара, якога ў сярэдзіне 1990-х многія лічылі лідарам. І дзе ён зараз, пахаваны ў лесе?

«Гэта ўсё казкі», — перабівае Аляксандр Скубакоў. «Гэта не тое месца, дзе такія рэчы гавораць», — заяўляе Тапузідзіс.

### Грэчаскі мільянер і беларуская мова

Да мільянера плынню ідуць хадакі, ён не хавае, што большасць





# першым даляравым мільярдэрам Беларусі»

з іх нешта просіць для сябе. Калі да канца галасавання застаецца паўгадзіны, і Тапузідзіс нарэшце сядае на сваё месца на чале стала. Выбарцаў няшмат, таму завязваецца яшчэ адна дыскусія.

Тапузідзіс пытаецца, які новы закон мусіць прыняць дзяржава. Я прапаную меры падтрымкі беларускай мовы. Дзікая статыстыка: ва ўніверсітэтах краіны на беларускай мове навучаецца ўсяго 300 чалавек, фактычна гэта толькі філалагічныя групы плюс нешматлікія групы гістфака.

Тапузідзіс не можа паверыць у гэтыя лічбы: «Вы хочаце сказаць, што на журналістыцы ў БДУ няма беларускага аддзялення?» Няма.

Тапузідзіс прапануе пазваніць каму-небудзь з рэктараў універсітэтаў і спраўдзіць.

Дыскусія наконт стану беларускай мовы працягваецца доўга. На адным баку ўяўнага рынга аказваюцца былы чыноўнік Аляксандр Скубакоў і цётка-назіральніца, якая, здаецца, працуе настаўнікам

да пастановы Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў 14.05.2015 № 12

ВЫБАРЫ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

11 КАСТРЫЧНІКА 2015 г.

Участковая камісія па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь участка для галасавання № 69 г. Мінск, вул. Панчака 32, Фрунзенскі раён

ПРАТАКОЛ*
аб выніках галасавання на выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь
у ______

У выніку падліку галасоў участковая камісія ЎСТАНАВІЛА:

1. Агульная колькасць выбаршчыкаў на ўчастку (вызначаецца па спісу грамадзян, якія маюць права ўдзельнічаць у выбарах) — 1851

2. Колькасць выбаршчыкаў, якія атрымалі бюлетэні (вызначаецца шляхам падліку подпісаў выбаршчыкаў у спісе грамадзян, якія маюць права ўдзельнічаць у выбарах) — 1382

3. Колькасць выбаршчыкаў, якія прынялі ўдзел у галасаванні (вызначаецца шляхам падліку бюлетэняў, якія знаходзіліся ў скрынках для галасавання), у тым ліку: — 1376

3.1. колькасць выбаршчыкаў, якія прынялі ўдзел у датэрміновым галасаванні — 536

3.2. колькасць выбаршчыкаў, якія прынялі ўдзел у галасаванні па месцы знаходжання — 4

3.3. колькасць выбаршчыкаў, якія прынялі ўдзел у галасаванні ў дзень выбараў у памяшканні ўчастка для галасавання — 836

4. Колькасць галасоў, пададзеных за кожнага кандыдата ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь

| Прозвішча, імя, імя па бацьку кандыдатаў у Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь (у алфавітным парадку) | Колькасць галасоў, пададзеных за кандыдата |
|---|---|
| Гайдукевіч Сяргей Васільевіч | 56 |
| Караткевіч Таццяна Мікалаеўна | 76 |
| Лукашэнка Аляксандр Рыгоравіч | 890 |
| Улаховіч Мікалай Дзмітрыевіч | 54 |

*Копія пратакола участковай камісіі пасля яго падпісання вывешваецца для ўсеагульнага азнаямлення ў месцы, устаноўленым камісіяй.

**Згодна з лічбамі, якія немагчыма праверыць, за Лукашэнку прагаласавала 65% выбарцаў, за Караткевіч 5,5%, за Гайдукевіча і Улаховіча па 4%. Супраць усіх — 20%.**

## «Кожны чалавек, які адчувае сябе беларусам, павінен вывучаць сваю мову»

у гэтай школе. На іншым знаходжуся я, але з цягам часу мяне пачынае ўсё больш актыўна падтрымліваць Тапузідзіс.

«Што вам перашкаджае? — уступае ў дыскусію назіральніца. — Скончыце філфак і працуйце журналістам», — «раіць» назіральніца.

«А калі я іду ў медыкі, мне таксама скончыць філфак? — абураюся я. — Вы разумееце, што нават у чалавека, які прыехаў з іншай краіны, цвярозае ўспрыманне сітуацыі, а ў вас не?»

«Кожны чалавек, які адчувае сябе беларусам, павінен вывучаць сваю мову. Размаўляць на ёй, пісаць на ёй», — кажа Тапузідзіс і прыводзіць прыклад Літвы, дзе ўсё справаводства вядзецца палітоўску, хоць бізнэс часткова вяртаецца да рускай мовы.

«Калі б дзяржава паставіла ўмовай валоданне беларускай мовай, я б пабег вучыць напярэдзе ўсіх беларусаў», — афарыстычна абяцае Тапузідзіс.

Сам ён адчувае сябе грэкам, найчасцей выкарыстоўвае рускую мову, але можа падтрымаць размову з прадстаўнікамі многіх нацый: «Я выдатна размаўляю на старагрэчаскай мове, горш — на навагрэчаскай. Ведаю азербайджанскую, турэцкую, магу на англійскай, грузінскай і трошкі на армянскай».

Тапузідзіс мяркуе, што гвалтоўна насаджаць беларускую мову не трэба, а заахвочваць — чаму б і не?

«Я б, напрыклад, прыняў масу ўсялякіх законаў. Хочаце, каб па-беларуску вучыліся? Значыць, заканчвайце беларускую школу — і паступаеце без конкурсаў ва ўніверсітэт. Можна зрабіць прэферэнцыі, каб з двух кандыдатаў у выканкам браць таго, хто размаўляе па-беларуску. Калі вы чыноўнік, ні храна не робіце і кіруеце ўсімі, то будзьце ласкавы, здайце экзамен», — прапануе грэк.

### «Шура, вось ты размаўляеш па-беларуску?»

— Шура, вось ты размаўляеш пабеларуску? — пытаецца Тапузідзіс у Скубакова.

— Не-а, — адказвае адстаўны чыноўнік.

— Чаму?

— Таму што не хачу... Не навучыўся. Чаму мяне хтосьці павінен прымусіць? У нас ёсць усё, каб прапагандаваць беларускую мову — і культура, і тэатры...

— Ён жа не пра гэта кажа! — спасылаецца на мяне Тапузідзіс. — А пра тое, што дзяржава абавязаная прымушаць вас як грамадзян любіць беларускую мову!

— І хто мяне прымусіць?

— Я цябе прымушу. Выдам загад і прымушу.

Тапузідзіс узяў падначаленага за гальштук, які нечым выпацкаўся, і працягнуў «допыт».

— Вось твая ўнучка размаўляе па-беларуску?

— Ёй больш падабаецца вучыцца на рускай мове.

— Ты мяне не падманвай. Гэта дзіця. Яго якой мове навучыш, на такой і будзе.

### Ён усё ведае

Тапузідзіс узгадвае Аршанскую бітву, Кастуся Каліноўскага. «Хто вашай нацыі больш за ўсё псаваў нервы і больш за ўсё забіў мужыкоў — гэта руськія, — кажа ён. — Ні разу з палякамі вы не ваявалі, ні разу з літоўцамі. З украінцамі — толькі з Хмяльніцкім, які хацеў насадзіць тут рускіх.

Трэба пісаць гісторыю з нацыянальнага пункту гледжання», — падсумоўвае Тапузідзіс.

Напрыканцы размовы ён расказаў пра сваю мару — стварыць сетку рэстаранаў з беларускай кухняй. Тапузідзіс прызнае, што займацца піцамі прасцей, аднак бачыць перспектыву ў дранiках і мачанцы.

«Праз два гады я стану мільярдэрам», — прагназуе ён. «А больш у нас няма мільярдэраў?» — пытаюся Тапузідзіса. «Пакуль што няма», — сцвярджае бізнэсмен.

Тапузідзіс запэўнівае, што не баіцца за свой бізнэс, бо сплачвае ўсе падаткі і не бярэ нічога ад дзяржавы: «Я б мог сысці ў афшоры, і кожны дзень пару мільёнаў адкладаць. Але не раблю гэтага».

### Тут усе мае людзі

...А што з падлікам галасоў? Пасля заканчэння галасавання старшыня камісіі Павел Тапузідзіс падышоў да назіральнікаў і папрасіў заставацца на сваіх месцах — за дзясятак метраў ад стала з падлікам бюлетэняў. Тыя не спрачаліся пра свае правы. Усё, што бачылі назіральнікі — спіны сяброў камісіі. Зрэшты, многія з «прадзяржаўных» назіральнікаў паспелі напісаць справаздачу аб адсутнасці прэтэнзій яшчэ да сканчэння галасавання.

Праз гадзіну падлікаў намесніца Тапузідзіса агучыла вынікі. Паводле іх, за Лукашэнку прагаласавала 65% выбарцаў, за Караткевіч — 5,5%, за Гайдукевіча і Улаховіча па 4%. Супраць усіх — 20%.

Тапузідзіс шчыра здзівіўся такой вялікай лічбе пратэстнага галасавання, але перапраўляраць нічога не стаў.

«Там усе мае людзі, — патлумачыў ён, паказваючы на камісію. — Я тут, бо б'юся за свой бізнэс».

За ўвесь час падліку галасоў Тапузідзіс не ўзяў у рукі ніводнага бюлетэня.

**Ягор Марціновіч**

# Даслоўны дыялог назіральніка і старшыні выбарчай камісіі: Вы бераце на сябе права вырашаць за мяне

Карэспандэнт «НН» 11 кастрычніка стаў сведкам дыялогу былога міліцыянта, сябра АГП **Мікалая Казлова** і кіраўнічкі ўчастковай выбарчай камісіі №24 **Аляўціны Гладкай**.

Трэба адзначыць, што адносіны паміж Гладкай і Казловым даўнія і вельмі складаныя. Яшчэ ў 2008 годзе падчас парламенцкіх выбараў дзейны міліцыянт, падпалкоўнік Мікалай Казлоў стаў сведкам укіду бюлетэняў у скрыню датэрміновага галасавання. Казлоў, нягледзячы на службу ў органах, апавёў пра гэты факт грамадскасці.

Сёлета, калі Мікалай Казлоў пабачыў, што Аляўціна Гладкая зноў узначальвае тую самую выбарчую камісію, то накіраваўся туды назіральнікам. Першыя тры дні праходзілі без здарэнняў. Аднак у суботу назіральнік зафіксаваў на ўчастку гэтак званых «каруселькчыкаў». Людзей, што ходзяць з аднаго ўчастка на іншы і бяруць удзел у галасаванні. Казлову нават удалося зняць іх на планшэт.

Камісія ж палічыла паводзіны Мікалая Казлова неадпаведнымі і прыняла рашэнне вытурыць яго з назіральнікаў. У той самы дзень у афіцыйных падліках і падліках незалежных назіральнікаў з'явілася розніца ў 213 чалавек.

**Аляўціна Гладкая:** Як ваша здароўе, скажыце?

**Мікалай Казлоў:** Маё? Выдатна. Увесь час пра вас думаю.

**АГ:** Пра мяне? Я вас сёння сніла.

**МК:** Вось бачыце — гэта ўзаемна. Хто каго перадумае *(смяецца)*.

**АГ:** Але я вам не прыснілася?

**МК:** Не.

**АГ:** Не магу расказаць, але які быў прыемны сон! Я вось думаю, чаму я вас ніколі спаткаць не магу, бо вы ўвесь час, як той магнат, на машыне. А я стараюся дзесьці пешшу хадзіць. Я вось сёння казала Святлане [*Якшына, назіральніца ад АГП* — **«НН»**], што ў гэтага чалавека, апроч усяго палітычнага, ёсць павага да жанчыны. І нават не да мяне, а ўвогуле. Гэта адна з вашых выдатных якасцяў.

**МК:** Дзякуй, Аляўціна Мікалаеўна, але гэта не адмяняе таго, што вы творыце... Гэта жахліва! Проста жахліва. Гэта не лезе ні ў якія вароты.

**АГ:** Беражыце здароўе.

**МК:** Дзе ж тут з вамі яго зберажэш. Ох...

**АГ:** І псіхічнае, і фізічнае. Калі б я падымала тост, то ўзняла яго за ваша псіха-фізічнае здароўе.

**МК:** Дзякуй вялікі. Калі б не вы тут, яно б у мяне было выдатнае.



**АГ:** Ведаеце, выбары пройдуць, а жыццё працягнецца.

**МК:** Так, дык у тым і справа, што вы будучыню вызначаеце, у тым ліку і маю. Кідайце вы гэтую справу. Аляўціна Мікалаеўна, не ідзіце вы болей у камісію. Не ідзіце, ну не ваша гэта.

**АГ:** Я разумею вашу непаслядоўную пазіцыю.


svaboda.org (RFE/RL)

**МК:** Вы лічыце, што я вас агаворваю?

**АГ:** Я — вас, а вы — мяне. Што, выходзіць, мы з вамі знаходзімся на супрацьлеглых баках.

**МК:** Хочаце сказаць, што я вас усе сем гадоў агаворваю? Вы лічыце, што ў мяне бзік на вас?

**АГ:** У вас ёсць стрыжань. Вы мяне круціце як палітык. Кажаце, што як старшыня камісіі я такая-сякая. Але мае чалавечыя якасці вы ніколі не закранулі.

**МК:** Я лічу, што службовыя і чалавечыя якасці павінны быць гарманічнымі. Калі вы іншая за межамі ўчастка — можа быць. Чаму вы лічыце, што можаце вызначаць за мяне будучыню?! Ну нельга так.

**АГ:** Правільна, кожны з нас сам выбірае.

**МК:** Калі вы ўкідваеце бюлетэні на ўчастку, то вы бераце на сябе права вырашаць за мяне.

**АГ:** Ні ў якім выпадку.

**Запісаў Зміцер Панкавец**

# Плошча, на якую ніхто не клікаў

**Дзве вулічныя акцыі за сумленныя выбары прайшлі ў Мінску.**

За дзень да 11 кастрычніка, даты выбараў, Мікалай Статкевіч, Уладзімір Някляеў і Анатоль Лябедзька правялі вулічную акцыю ў цэнтры сталіцы. Людзі збіраліся на плошчы Свабоды, а пасля прайшлі праз Кастрычніцкую да плошчы Якуба Коласа. Пяць гадоў, ад часу папярэдняй Плошчы, ніхто не праходзіў цэнтральнымі вуліцамі з бел-чырвона-белымі сцягамі.

Агулам на шэсце сабралася больш за тысячу чалавек. Некаторыя людзі спадзяваліся, што палітыкі ўсё ж заклічуць назаўтра прыйсці на Плошчу. А калі так і не пачулі чаканых словаў, то расчаравана сыходзілі: «Зноў пяць гадоў чакаць».

11 кастрычніка на Кастрычніцкай сталі збірацца а 20-й. Аднымі з першых на плошчы з'явіліся актывісты Максім Вінярскі, Вольга Мікалайчык, Алесь Макаеў. Яны разгарнулі вялікую расцяжку «Лукашэнка, сыходзь!». Неўзабаве побач з імі ўстала некалькі маладых людзей з палотнішчам, на якім было напісана «Байкот дыктатуры». Адзін быў з украінскім сцягам на плячах. Хлопцы кожныя некалькі хвілін выкрыквалі: «Жыве Беларусь».



Некалькі сотняў чалавек пратэставалі супраць вынікаў выбараў увечары 11 кастрычніка.

Паціху на плошчы сабралося каля 200—300 чалавек, плюс журналісты і міліцыянты ў цывільным. Дарэчы, сілавікі ніяк не перашкаджалі. На некаторы час да плошчы пад'ехала машына з рупарам, адкуль прагучалі заклікі разысціся, бо сваімі паводзінамі людзі нібыта парушалі закон (прычым гучала гэта і па-руску, і па-беларуску). Людзі праігнаравалі папярэджанне, але ніякай рэакцыі з боку сілавікоў гэта не выклікала.

Прыкладна а 21-й натоўп рушыў у бок Чырвонага касцёла — хтосьці выкрыкнуў: «Ідзем да касцёла! Памолімся!» Натоўп ішоў мірна, пляскалі ў далоні. Перад выхадам на плошчу Незалежнасці дарогу перакрыла група міліцыянераў у цывільным. Натоўп спыніўся перад імі, і здавалася, будзе ці то бойка, ці то затрыманні. Аднак «людзі ў чорным» проста стаялі, і пратэстоўцы мірна пайшлі далей, абышоўшы сілавікоў.



Шматлікай Плошча-2015 не стала.


Лябедзька, Статкевіч і Някляеў 10 кастрычніка правялі шэсце ў цэнтры, але на Плошчу выраашылі не клікаць.


Кандыдат у прэзідэнты Таццяна Караткевіч пасля агучвання вынікаў першых экзіт-полаў накіравалася на вячэру ў кавярню «Грунвальд».

У першых шэрагах ішлі тыя хлопцы з расцяжкай «Байкот дыктатуры». У многіх удзельнікаў акцыі яны пакінулі ўражанне правакатараў: былі нападпітку, выкрыквалі агрэсіўныя лозунгі. Ніхто з сталых удзельнікаў апазіцыйных акцый іх не ведаў.

Каля касцёла хтосьці з актывістаў праспяваў у мегафон «Магутны Божа», вось і ўсё. Людзі разышліся па ўсёй плошчы, часам раздаваліся хтосьці гукаў: «Дзе Статкевіч?» Сілавікі ў цывільным стаялі непадалёк, назіраючы за натоўпам.

Тым часам ля касцёла з'явіўся дзіўны хлопец з расійскім трыкалорам. Ён паспрабаваў справакаваць моладзь на бойку, але людзі не адрэагавалі. Яго выцеснілі з плошчы, і ў выніку ён проста збег.

А пакуль увагу журналістаў адцягнуў той прыхільнік рускага свету, знікла невядома куды радыкальная група з расцяжкай «Байкот». Фактычна на плошчы застаўся ўсяго толькі адзін бел-чырвона-белы сцяг — яго на доўгім дрэўку трымаў зусім малады хлопчык — Ягор Скрабнеўскі (**старонка 2**). Яму ўсяго толькі 17 гадоў, ён яшчэ вучыцца ў школе. Дарэчы, хоць ён і разгубіўся пры з'яўленні міліцыі, трымаўся ўпэўнена.

На той момант на плошчы засталося чалавек з 40, і гэта разам з журналістамі. Неўзабаве разышліся і яны.

**Улад Швядовіч**

## Хлопцаў у Жлобіне паўсутак трымалі ў пастарунку за надпіс «Жыве Беларусь!»

У Жлобіне двое маладых гараджанаў 11 кастрычніка ноччу на Палявой вуліцы напісалі фарбай на асфальце «Жыве Беларусь!». Аптымістычны лозунг яны паўтарылі з дзясятак разоў — цягам чатырохсот метраў.

Грамадскі актывіст Анатоль Папоў паведаміў, што і Аляксандра, і Тараса — так завуць маладых хлапцоў — пратрымалі ў пастарунку паўсутак і пад вечар адпусцілі.

Супраць Аляксандра Е. складзены адміністрацыйны пратакол — яму пагражае штраф. Тарас прадстаўлены ў гэтай гісторыі сведкам. Камунальнікі за гэты час паспелі зафарбаваць чорнай масцікай дарожнае графіці.

Жыццесцвярджальным надпісам на асфальце маладыя гараджане адгукнуліся на папярэднюю інфармацыю пра вынікі прэзідэнцкіх выбараў.

**Радыё «Свабода»**

# Забіў і спаліў фермера за доўг, а пасля засіліўся ў СІЗА

У студзені мужчыну збілі, схавалі ў багажнік, адвезлі ў лес, расстралялі і спалілі. Аднак падазраваныя неўзабаве былі затрыманыя. Адзін з абвінавачаных па справе здзейсніў суіцыд у турме.

У панядзелак 12 кастрычніка ў судзе Пінскага раёна і горада Пінска адбылося чарговае судовае пасяджэнне па справе аб зверскім забойстве 27-гадовага фермера. Паводле версіі следства, яго пазбавілі жыцця 40-гадовы жыхар вёскі Малоткавічы Анатоль Якубчык разам са сваім 20-гадовым сынам Эдуардам і яго сябрам Леанідам.

У 2010 годзе Анатоль даў фермеру Аляксандру ў доўг каля 14 тысяч еўра пад 5% у месяц. Той змог аддаць толькі 10 тысяч. Яго «паставілі на лічыльнік». Сёлета ўзімку крэдытор патрабаваў вярнуць яму больш за 70 тысяч еўра.

Аднавіць поўную карціну таго, што адбылося, суд ужо не зможа: 40-гадовы Анатоль Якубчык тыдзень таму засіліўся ў адзіночнай камеры Баранавіцкага СІЗА. Цяпер за ўчынак бацькі ў судзе адказваюць яго сын Эдуард і сябар сына Леанід. Хлопцаў абвінавачваюць у прымусе да выплаты доўгу, захоўванні, нашэнні і перавозцы зброі і саўдзеле ў забойстве.

Эдуард адмовіўся ад дачы паказанняў, спаслаўшыся на дрэннае самаадчуванне. Але Леанід, які ўжо даваў паказанні, цяпер вырашыў удакладніць некаторыя моманты.

Усё здарылася ўвечары 7 студзеня. Вечар таго дня Леанід вырашыў правесці са сваёй дзяўчынай Вольгай. Ён купіў кветкі і цукеркі і адправіўся да яе ў госці. Але праз некаторы час яны пасварыліся, а на мабільны Леаніда патэлефанаваў Эдуард. Хлопцы дамовіліся аб сустрэчы. Эдуард забраў сябра са стаянкі ля аўтарынка, і яны паехалі ў Малоткавічы. Леанід хацеў купіць вады ў горадзе, але Эдуард сказаў, што ў вёсцы ёсць кафэ і можна купіць там. Па дарозе Якубчык-малодшы распавёў, што яго бацька хоча пагаварыць з адным чалавекам, але той хаваецца. І што бацька папрасіў сказаць яму, калі ён яго раптам убачыць.

Пасля 23-й гадзіны патрэбнага Анатолю чалавека, таго самага Аляксандра, яны заўважылі недалёка ад кафэ. Фермер быў збіты бітай і спакаваны ў багажнік.

Хлопцы выехалі за Малоткавічы, Эдуард патэлефанаваў свайму бацьку і сказаў, што чалавек у іх і яго можна забіраць. Аўтамабіль з'ехаў на жвіровую дарогу. Неўзабаве пад'ехаў Якубчык-старэйшы на сваёй машыне. Першым да багажніка падышоў Анатоль. Леанід сцвярджае, што стаяў ля пасажырскіх дзвярэй і не бачыў, што адбываецца. Як зразумеў абвінавачаны, выкрадзенага чалавека пераклалі ў багажнік іншага аўто. Па словах хлопца, фермер усю дарогу крычаў з багажніка, што верне грошы.

Аповед Леаніда поўны ўдакладненняў: «Не бачыў», «Не памятаю», «Не ведаў», «Не чуў», паведамляе kp.by.

— Калі мы на машыне Анатоля прыехалі ўглыб лесу, мы з Эдзікам выйшлі, я ўзяў яго за руку і мы вярнуліся. Я сказаў, што гэта не наша справа. Гэты чалавек крычаў: «Толік, адпусці мяне, я ўсё аддам». Я зразумеў, што гаворка пра доўг, пра грошы, — распавёў Леанід.

Хлопцы ўсё ж такі з'ехалі (машына Эдуарда была прыпаркаваная на з'ездзе ў лес), пакінуўшы бацьку сам-насам з даўжніком. За спінамі ў хлопцаў неўзабаве пачуліся па меншай меры 7 стрэлаў, як вызначаць пасля следчыя — з пераабсталяванага траўматычнага пісталета.

Затым Анатоль даручыў сыну спаліць біту і розныя рэчы ў пакеце. Леанід паехаў паліць рэчы разам з сябрам. На вогнішчы ён пакінуў свой недакурак.

На судзе Леанід паведаміў, нібыта думаў, што фермера пасля гутаркі прывязуць назад у Малоткавічы. Сваю віну ў забойстве ён не прызнае.

— Я прызнаюся ў тым, што мы з Эдзікам выкралі чалавека, змясцілі яго ў багажнік. Гэта ўжо злачынства. Але мы яго не забівалі, — заявіў на пасяджэнні Леанід, піша kp.by.

Неўзабаве суд разгледзіць рэчавыя доказы, знойдзеныя на месцы злачынства. Да канца тыдня плануецца завяршыць судовае следства і перайсці да спрэчак.

Улад Швядовіч

## Картачны доўг завёў у турму

Жыхар Баранавічаў **прайшоўся па горадзе голым** пасля пройгрышу ў карты і атрымаў тры гады калоніі.

1 жніўня жыхары Баранавіч сталі сведкамі незвычайнага відовішча. Прыкладна ў 18.10 па вуліцы Фабрычнай ішоў абсалютна голы мужчына. Сваю адзежу ён нёс у руках. Мужчына быў, кажа намеснік начальніка аддзела пракуратуры Брэсцкай вобласці Аляксандр Жашко, п'яным.

Калі ён пачаў пераходзіць дарогу па пешаходным пераходзе, яго затрымалі міліцыянты. Са слоў мужчыны, у гэты дзень ён са сваімі знаёмымі выпіваў і гуляў у карты. Проста так гуляць нецікава, вось яны і дамовіліся: той, хто прайграе, павінен прайсціся голым па вуліцы. І паколькі прайграў ён, дык раздзеўся і пайшоў па горадзе. Да таго моманту мужчына выпіў 200—250 грамаў гарэлкі. А такі тэрмін атрымаў, бо ўжо быў 7 разоў судзімы.

УШ

## Браў перадаплату і знікаў

Мінская міліцыя **шукае ўраджэнца Грузіі** па падазрэнні ў махлярстве.



Мужчына ў Мінску арандаваў жыллё на суткі, а потым пераздаваў яго некальким арандатарам адначасова на доўгі тэрмін. Пры гэтым малады чалавек браў перадаплату з кожнага «кліента» адразу за ўвесь тэрмін.

Таксама высветлілася, што гэта не адзіны незаконны «бізнэс» у дадзенага грамадзяніна. Мужчына пазнаёміўся з дзяўчынай, увайшоў да яе ў давер і выманіў каля 30 мільёнаў рублёў. Сяброўцы ён казаў, што грошы яму патрэбныя, каб распачаць сваю справу. Лішне казаць, што, узяўшы грошы, мужчына знік.

Таксама ў інтэрнэце мужчына размяшчаў аб'явы аб замове рухавікоў. Ад патэнцыйных пакупнікоў патрэбна была перадаплата.

Супрацоўнікі аддзела крымінальнага вышуку Савецкага РУУС сталіцы просяць грамадзян, якія маюць інфармацыю пра магчымае месцазнаходжанне мужчыны, паведаміць пра гэта асабіста або па тэлефонах (017) 292-90-51, 8 (017) 292-02-02, 8 (017) 292-95-54, 102.

## За даўгі — на 6 гадоў

Жанчыну пасадзілі **за 240 мільёнаў** доўгу.

51-гадовая прадпрымальніца з Баранавічаў гандлявала жаночай вопраткай на адным з гарадскіх рынкаў. І амаль 6 гадоў вадзіла за нос сваіх знаёмых. Пазычала па тысячы даляраў і больш — то на вяселле сына, то на развіццё бізнэсу — і не вяртала. Так і не разлічыўшыся з абавязкамі, жанчына пераехала ў Мінск.

Ад тых, хто спрабаваў спагнаць пазыку, жанчына адкуплялася, вяртаючы невялікія сумы. Урэшце ашуканыя крэдыторы ўсё ж звярнуліся ў міліцыю. У дачыненні да жанчыны распачалі крымінальную справу за махлярства ў асабліва буйным памеры. У пракуратуры Брэсцкай вобласці ўдакладнілі, што за шэсць гадоў яна атрымала 239 млн 384 тысячы рублёў, падмануўшы семярых чалавек з Баранавічаў, Нясвіжа і Пінска. Усе грошы жанчына патраціла.

Прадпрымальніцу асудзілі на 6 гадоў зняволення.

УШ

**Фотафакт**




**Падпалілі тры машыны**

У Мінску невядомыя падпалілі адразу тры аўтамабілі, якія былі прыпаркаваныя на праезнай частцы. Здарэнне адбылося ўначы 8 кастрычніка на вуліцы Лермантава.

## Сцісла

### Забіў сякерай жонку

Трагедыя здарылася ў пасёлку Ільіч Рагачоўскага раёна. 8 кастрычніка каля свайго дома 51-гадовы мужчына забіў сякерай 48-гадовую жонку.

Вясковец біў жонку абухом па галаве, пакуль тая не памерла. Затым ён стаў біць сякерай па галаве сам сябе, спрабуючы такім чынам здзейсніць самагубства. Але яго своечасова спынілі. Заведзена крымінальная справа за забойства, адна з версій сваркі — рэўнасць. Забойца знаходзіцца ў бальніцы. Каля яго палаты выстаўлены канвой.

### Дзіця ўпала з 19-павярховіка

Трагедыя адбылася ў арэндным доме №43 на вуліцы Скарыны ў Мінску. 12-гадовы хлопчык упаў з даху 19-ціпавярховага дома і разбіўся насмерць.

### Расеец спрабаваў абмяняць у Гомелі 1400 фальшывых еўра

53-гадовы прадпрымальнік з расійскага рэгіёна, прыехаўшы ў Гомель, меў намер абмяняць сем банкнот наміналам 200 еўра. Аднак у банку сапраўднасць купюр выклікала сумневы, і расейца затрымалі. Па словах камерсанта, валюту ён набыў на тэрыторыі Расіі. Распачатая крымінальная справа.

### Смерць на пажары

У Рэчыцы загінулі 78-гадовая бабуля разам з 2-гадовым праўнукам. Іх целы супрацоўнікі МНС знайшлі ў згарэлай кватэры. Верагодная прычына пажару — дзіцячыя гульні з запалкамі.

### Узяў пакатацца

У Мінску аўтаслесар адной з СТА выпіў і вырашыў праехацца на «Фальксвагене», які на рамонт пакінуў кліент. Слесара затрымала міліцыя, яму пагражае крымінальная адказнасць за крадзеж машыны.

### Накрылі наркалабараторыю

У беспрацоўнага жыхара Бабруйска міліцыя выявіла цэлую лабараторыю па вырабе амфетаміну. Праваахоўнікі канфіскавалі рэчыва і лабараторнае абсталяванне. Мужчына затрыманы.

### Браканьер ладзіў сафары

Каля вёскі Вертнікі Дзяржынскага раёна егеру ўдалося затрымаць браканьера, які страляў па жывёлах з аўтамабіля «Ніва». У мужчыны знайшлі незарэгістраваную зброю і шкуры забітых жывёл. Вядзецца следства.

### Села за падробку бальнічных

Былая доктарка адной са сталічных паліклінік асуджаная на тры гады пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Жанчына выдавала фіктыўныя бальнічныя. Яны «каштавалі» ад 200 да 400 тысяч рублёў.

### Няўдалы плантатар

У Кобрыне затрымалі мужчыну, які вырошчваў каноплі ў лесе каля вёскі Камень. Побач з «агародам» знайшлі шалаш, дзе было амаль 10 кг высушанага наркотыку. Цяпер мужчыну пагражае да 15 гадоў зняволення.

УШ

# Сектар фанатаў Б-12 сышоў са стадыёна ў знак пратэсту за затрыманні фанатаў у шаліках з «Пагоняй»


Сэлфі Змітра Хведарука з міліцэйскай машыны.

Увесь фанацкі сектар зборнай Беларусі пакінуў матч адборачнага турніру чэмпіянату Еўропы паміж Беларуссю і Македоніяй у перапынку гульні. Фанаты зрабілі гэта ў знак пратэсту супраць затрымання трох заўзятараў за шалікі з «Пагоняй».

Сектар Б-12 падтрымлівае беларускіх футбалістаў як дома, гэтак і за мяжой. На гульні ў Барысаве на сектары прысутнічала некалькі дзясяткаў чалавек. Агулам жа на матч зборнай прыйшло ўсяго толькі 1,5 тысячы чалавек. Гэта антырэкорд апошніх гадоў. З такім стаўленнем міліцыі да заўзятараў цяжка чакаць аншлагаў у будучыні.

Жыхара Мінска Змітра Хведарука, а таксама Віталя Буцько і Юрыя (прозвішча называць не хоча) затрымалі за шалікі з «Пагоняй» на матчы адборачнага турніру чэмпіянату Еўропы па футболе. Гульня з Македоніяй адбывалася ў Барысаве.

Ноч затрыманыя правялі ў барысаўскім пастарунку. Назаўтра ў справу ўмяшалася Беларуская федэрацыя футбола і асабіста яе старшыня, былы віцэ-прэм'ер Сяргей Румас. На думку федэрацыі, затрыманні за незабароненую ў Беларусі і свеце сімволіку неабгрунтаваныя.

Гульня ж скончылася ўнічыю — 0:0.

Калі вярстаўся нумар стала вядома, што раённы суд Барысава даў Віталю Буцько і Змітру Хведаруку па 10 базавых велічынь (1,8 мільёна рублёў) штрафу. Хлопцаў звінавацілі ў «дробным хуліганстве» і «непадпарадкаванні міліцыі».

**Зміцер Панкавец**

Здароўе

## Дактары: Электронныя цыгарэты шкодзяць як курцу, так і навакольным

Пра гэта паведаміла на прэс-канферэнцыі ў Мінску **загадчыца лабараторыі** артэрыяльнай гіпертаніі РНПЦ «Кардыялогія» Вольга Паўлава.

Паводле яе слоў, звыштонкія часціцы, некаторыя хімічныя таксіны, якія выдзяляюцца электроннымі цыгарэтамі, небяспечныя для навакольных. У вадкасці для запраўкі электронных цыгарэт выяўленыя цяжкія металы, а ў аэразолях, якія генеруюць электронныя цыгарэты, утрымліваецца высокатаксічны нікацін, які выклікае развіццё і падтрыманне псіхічнай і фізічнай нікацінавай залежнасці.

Асабліва небяспечныя электронныя цыгарэты для падлеткаў, у якіх адбываецца развіццё нікацінавай залежнасці нават у выніку адзінкавых выпадкаў курэння электронных цыгарэт.

Шкода ад курэння цыгарэт у цэлым для арганізма і сардэчна-сасудзістай сістэмы ў прыватнасці з'яўляецца даказаным навуковым фактам. Для падлеткаў курэнне — самы магутны фактар з тых, што ўплываюць на развіццё сардэчна-сасудзістай паталогіі ў будучыні, адзначыў загадчык кафедры кардыялогіі і рэўматалогіі Беларускай акадэміі паслядыпломнай адукацыі Андрэй Прыстром.

## Валейбалістка Ганна Каліноўская: Я далёкая сваячка Кастуся



Лідар нацыянальнай зборнай Беларусі па валейболе Ганна Каліноўская ў інтэрв'ю «Прессболу» заявіла, што знаходзіцца ў сваяцтве з Кастусём Каліноўскім: «Я цікавілася гэтым пытаннем і даведалася, што Каліноўскія пасля паўстання 1863 года былі сасланыя ў Гомельскую вобласць. Адтуль пайшлі дзве лініі. Мая, адразу скажу, далейшая, але яна таксама мела дачыненне да Кастуся Каліноўскага».

Валейбалістка адзначае, што яе характар пацвярджае гэта сваяцтва: «Так, бунтарскага ўва мне шмат. Я ўпартая і не люблю здавацца. Магу доўга маўчаць, але калі цярпенню падыдзе канец — выбухну і нікому мала не падасца».

## Playboy адмовіцца ад фатаграфій аголеных жанчын

Знакаміты мужчынскі часопіс *Playboy* цалкам адмовіцца ад публікацыі фатаграфій аголеных жанчын.

Амерыканскія ўладальнікі выдання лічаць, што інтэрнэт зрабіў аголенасць нецікавай, і парнаграфічныя часопісы больш не могуць быць камерцыйна рэнтабельныя.

У той жа час часопіс не мае намеру адмаўляцца ад адкрытых жаночых здымкаў.

Заснаваны ў 1953 годзе часопіс праз 20 гадоў прадаваўся тыражом 5,6 млн асобнікаў, а зараз наклад выдання складае толькі 800 тысяч.

Здымкі аголенай натуры раней зніклі з сайта часопіса, гэта было зроблена ў тым ліку для таго, каб атрымаць доступ у сацыяльныя сеткі.

*New York Times* паведамляе, што новаўвядзенні, якія будуць афіцыйна прадстаўлены ў сакавіку наступнага года, атрымалі ўхвалу 89-гадовага заснавальніка часопіса Х'ю Хефнера.

**Сямён Цыбульскі**

# Нобелеўскую прэмію міру атрымаў Круглы стол Туніса

За мірны **пераход да дэмакратыі**.

Арганізацыя «Тунiскі Нацыянальны дыялог» атрымала Нобелеўскую прэмію міру за яго «вырашальны ўклад у будычыню плюралістычнай дэмакратыі ў Тунісе ў выніку Язмінавай рэвалюцыі 2011 года».



«Тунiскі Нацыянальны дыялог» — гэта свайго роду круглы стол, які адыграў важную ролю ў працэсе пераходу Туніса да стабільнага развіцця. Яго ўтварыла чацвёрка асноўных структур грамадзянскай супольнасці Туніса. Гэта незалежныя прафсаюзы краіны, канфедэрацыя прадпрымальнікаў і працадаўцаў, аб'яднанне праваабаронцаў і калегія адвакатаў краіны.

У адрозненне ад Лівіі, Туніс пасля рэвалюцыі не пагрузіўся ў хаос. У адрозненне ад Егіпта, контррэвалюцыя там не перамагла. Тунiскі дыктатар быў скінуты ў 2011 годзе. Прыклад Туніса натхніў на паўстанне Егіпет, Лівію, Бахрэйн і Сірыю. Аднак паспяховай была толькі туніская рэвалюцыя.

**Мікола Бугай**

Кіно

# Як выжыць у космасе




Марсіянін
**Жанр:** фантастыка, прыгоды
**Рэжысёр:** Рыдлі Скот
**У ролях:** Мэт Дэйман, Джэсіка Чэстэйн, Кірстэн Уіг, Джэф Дэніэлс, Майкл Пенья, Шон Бін, Кейт Мара, Себасцьян Стэн, Аксэль Хені, Чыветэль Эджыафор
ЗША, 141 хв.
**Адзнака:** 8,5

Марсіянская місія «Арэс-3» амаль на самым пачатку сваёй працы вымушаная экстранна пакінуць планету з-за пясчанай буры. Падчас эвакуацыі інжынер і батанік Марк Уотні пашкодзіў скафандр і страціў прытомнасць. Супрацоўнікі місіі, палічыўшы яго загінулым, эвакуяваліся з планеты, пакінуўшы Марка аднаго.

Ачуняўшы, Уотні выяўляе, што сувязь з Зямлёй адсутнічае, але пры гэтым цалкам функцыянуе жылы модуль. Паранены, але жывы, галоўны герой пачынае шукаць спосаб пратрымацца на наяўных запасах ежы, вітамінаў, вады і паветра яшчэ 4 гады да прылёту наступнай місіі «Арэс-4».

Сцэнар для стужкі стварыў Дру Гадард, 50 старонак яго складаюць матэрыялы *NASA*. Місія на Марс, апісаная ў фільме, з'яўляецца імітацыяй рэальнай місіі, якую ўпраўленне плануе ў будучыні. «Прычына, па якой у *NASA* так задаволеныя кнігай, а таксама глядзелі фільм двойчы — навуковыя апісанні ў ім даволі дакладныя. Усё, што робіць герой, сапраўды дапамагло б яму выжыць», — паведаміў рэжысёр Рыдлі Скот.

Здымкі фільма праходзілі ў пустэльні Вадзі Рам у Іарданіі. Фільм насамрэч уражвае. Падзеі апісваюцца дынамічна, большасць з іх адбываецца ў экстрэмальных умовах, дзе любая памылка можа быць фатальнай. Насычанасць і навуковая дакладнасць, прасты гумар і апеляванне да чалавечых каштоўнасцяў робяць стужку цікавай для кожнага гледача.

**Настасся Уласава**

**Марс**

чацвёртая па аддаленасці ад Сонца і сёмая па памерах планета Сонечнай сістэмы. Маса планеты складае 10,7% масы Зямлі. Названая ў гонар Марса — старажытнарымскага бога вайны. Часам Марс называюць «чырвонай планетай» з-за чырвонага адцення паверхні, якое надае ёй аксід жалеза.

Атмасферны ціск на паверхні Марса ў сярэднім складае 600 Па, гэта прыблізна ў 160 разоў менш за зямны ціск. Ён настолькі нізкі, што самая моцная бура на Марсе здольная толькі сапсаваць прычоску. З-за нізкай шчыльнасці паветра гук на Марсе не распаўсюджваецца гэтак жа лёгка, як на Зямлі: напрыклад, каб суразмоўца вас пачуў, прыйдзецца падысці да яго ўшчыльную і крычаць з усіх сіл.

Сярэдняя тэмпература паверхні Марса складае -63 ° С. У Зямлі тэмпература паверхні складае 14 ° С. Даўжыня марсіянскага дня складае 24 гадзіны 37 хвілін, а даўжыня марсіянскага года — 687 дзён.

# Музыка Аляксей Фралоў: Роля Асада была пазітыўная

**Беларус Аляксей Фралоў — выдатны фагатыст. А яшчэ ён удзельнік беларускага нацыянальнага руху, актывіст беларускамоўнай кальвініскай царквы. Перад самай вайной яму давялося папрацаваць у Нацыянальным сімфанічным аркестры Сірыі і выкладчыкам у Акадэміі музыкі і тэатра ў Дамаску.**



Аляксей Фралоў над мірным Дамаскам.



Так сёння выглядаюць некаторыя сірыйскія гарады пасля бамбардзіровак і абстрэлаў.

Меркаванне Аляксея Фралова наконт рэжыму Асада не супадае з агульнараспаўсюджаным. Вось што ён расказвае пра гэтую краіну, што пагрузілася ў крывавую грамадзянскую вайну.

**— Аляксей, у сацыяльных сетках Вашым месцам працы пазначаны *Damascus Opera House*. У прыцэле новага павароту падзеяў у Сірыі выглядае інтрыгуюча…**

— Найперш, гэта не прыдумана, я насамрэч там працаваў цягам 2011—2012 гадоў. Ёсць пэўнае настальжы па тым часе і тым месцы, таму гэты статус і не змяняю... У Дамаску я працаваў па спецыяльнасці — выкладчыкам у Акадэміі музыкі і тэатра. Таксама выступаў як саліст Нацыянальнага сімфанічнага аркестра, у якасці першага фагатыста. Праца ў Дамаску пакінула ў мяне найлепшыя ўспаміны.

Я адчуў дабрыню гэтага народа, яго вялікую сардэчнасць. Значна большую, чым у беларусаў. Яны гатовы падзяліцца з табой усім, бо ты — госць. І няважна, хто і адкуль: амерыканец, француз, расеец ці беларус. Расейцаў, праўда, там асабліва любяць. Дзясяткі гадоў Сірыі дапамагаў спачатку Савецкі Саюз, потым Расея, таму сантыменты да Масквы вялікія. І роля Расеі ў Сірыі была вельмі пазітыўная. Яна спрыяла эканоміцы, культуры, адукацыі. Я не бяруся аналізаваць, ці былі там фінансавыя, геапалітычныя інтарэсы. Я проста канстатую пункт гледжання звычайнага сірыйца, з сотнямі якіх я кантактаваў і дагэтуль сябрую.

**— А палітыка, рэлігійны фундаменталізм, дыктатура?**

— Сірыйцы — народ добразычлівы. Жыў і хацеў жыць у міры паміж сабой — грамадзянскім, канфесійным. Канечне, гэта не дэмакратыя. Але ці дэмакратыя ў Саудаўскай Аравіі? Ці дэмакратыя ў Бахрэйне? А ў Сірыі было талерантнае грамадства, у тым ліку дзякуючы палітыцы ўладаў.

**— Хто, па-Вашаму, найбольш вінаваты ў тым, што ў Сірыі разгарэлася братазабойчая вайна?**

— Вінаватыя палітычныя інтарэсы пэўных дзяржаў. Аслабленне Сірыі выгаднае Ізраілю, які дзейнічае паводле прынцыпу «падзяляй і ўладар». Негатыўную ролю адыгралі таксама Катар, Саудаўская Аравія, некаторыя колы ў ЗША і Францыі. І гэтая гульня інтарэсаў зламала лёсы ўжо нават не тысяч, а мільёнаў сірыйцаў.

Па-мойму, з тым жа Асадам можна і трэба было дамаўляцца. Гэта ж не той фанатычны Асад-бацька, а нармальны, адэкватны, праеўрапейскі чалавек з еўрапейскай адукацыяй, які паволі, эвалюцыйна рэфармаваў краіну.

**— Выходзіць, Вы сталі міжвольным сведкам гістарычнага злому ў цэлым рэгіёне.**

— Так, я аказаўся менавіта на зломе, на самым пачатку «арабскай» вясны, якая 3—4 гады таму пачала каціцца па рэгіёне, захопліваючы ўсё новыя і новыя краіны. Пры мне пачыналі ўжо ляцець «першыя ластаўкі» тэрарызму і ў Сірыі: дзесьці выбух, дзесьці гранатамёт, дзесьці смяротнік. На поўначы захапілі Хомс, на поўдні Дараа — і пайшло-паехала.

**— І ўсё ж, ці няма ў тым, што адбываецца, найбольшай віны «дынастыі» Асадаў? Хоць ён і больш свецкі за многіх сваіх калег у арабскім свеце, але іншадумства, мякка кажучы, не вітаў…**

— Я спачуваю тым людзям, якія пацярпелі ад рэжыму. Сам Асад быў закладнікам сістэмы, створанай ягоным бацькам. Зразумела, гэта аўтарытарная сістэма, якая трымаецца на спецслужбах і г.д. Але там увесь рэгіён так пабудаваны. Каб гэтага не было, пэўна, ісламісты ўзялі б верх з апорай на сунітаў. І тады ўжо хрысціянам, алавітам, людзям свецкім — усім, каго цывілізаваная Еўропа падтрымлівае і лічыць сваімі, — дакладна тут не засталося б месца. Іх проста скінулі б у мора. А яны аўтахтоны на гэтай зямлі, маюць поўнае права на ёй жыць. І жылі мірна, пакуль не пачалося гэтае паўстанне.

Цвярозых галасоў гучала мала, іх проста не пачулі, лунала эйфарыя: маўляў, скінем Асада, мы наш, мы новы свет збудуем, — і настане дэмакратыя. Так не стала: зусім іншы свет — арабскі, іншы кантэкст, іншая культура.

Цікава, што канцлерка Нямеччыны Ангела Меркель давала зразумець, што, мякка кажучы, сумняецца ў імпэце французскага калегі, які заклікаў да вайны супраць Асада. Гэта недальнабачная, напалеонаўская палітыка без мудрасці, без аналізу і хрысціянскай этыкі. Пры ўсёй маёй павазе да Захаду, да заходніх каштоўнасцяў, на арабскім Усходзе ён памыляецца.

**— Аляксей, наколькі разумею, Сірыю Вы пакінулі вымушана, з пачаткам ваенных дзеянняў?**

— Так, вымусіла сітуацыя. Яна накалілася настолькі, што мне па-сяброўску параілі з’ехаць самі сірыйцы. На той момант ужо гадзінамі не было электрычнасці, пачаліся перабоі з газам, усё часцей і бліжэй да цэнтра Дамаска чуліся аўтаматныя стрэлы і выбухі снарадаў...

**— Крыўдна было кідаць справу на паўдарозе? Адчуваецца, што вам рэальна было там камфортна і фізічна, і маральна…**

— Канечне. Тамтэйшыя людзі цягнуцца да еўрапейскай культуры, да музыкі, да мастацтва. Я кажу пра нармальныя, праеўрапейскаія сілы. І, дарэчы, сучасны прэзідэнт, Башар Асад, заўсёды падтрымліваў менавіта еўрапеізацыю Сірыі. Гэта была свядомая культурная палітыка вышэйшага кіраўніцтва — пераадоленне ў краіне перажыткаў сярэднявечча.

Ведаеце, у маіх студэнтаў у літаральным сэнсе гарэлі вочы, яны ўвесь час даймалі пытаннямі: устас, раскажыце пра гэта, устас, раскажыце пра тое. «Устас» па-іхняму — гэта «шаноўны настаўнік». Яны шчыра імкнуліся да ведаў. Нават самыя няздольныя! Былі як таленавітыя вучні, так і не вельмі. І нават няздатныя стараліся, нешта «вышкрабалі» на тых фаготах. Папросту фенаменальная цяга да мастацтва, да культуры. Народ жывы, надзвычай актыўны, вельмі сонечны. Нездарма Дамаск здаўна называюць яшчэ і Аль-Шам — Горад Сонца. Шкада, што цяпер там хаос.

У Дамаску засталіся сябры, калегі-выкладчыкі, студэнты. Як могуць, жывуць, дакладней, выжываюць. Нехта, зразумела, эміграваў. Прыкладам, адзін з маіх студэнтаў пераехаў у Нямеччыну, там ужо працуе. Але ён меў добры старт — у яго ўдала ўсё складвалася па спецыяльнасці, з фаготам. Яму было што паказаць у той жа Нямеччыне. Ну, а хтосьці застаўся на радзіме...

**— Як па-Вашаму, далучэньне расейскай авіяцыі да ваеннай аперацыі супраць баевікоў «Ісламскай дзяржавы» — на карысць сірыйцам?**

— Расея мае ў Сірыі свае інтарэсы, і ёй кіруе не толькі шчырае жаданне дапамагчы беднаму сірыйскаму народу. Але ў гэтым выпадку я ўсё ж падтрымліваю Расею, бо ў дадзенай сітуацыі яе дзеянні супадаюць з інтарэсамі сірыйскага народа. Роля Расеі ва Украіне была цалкам негатыўная, роля ў Сірыі можа аказацца пазытыўнай.

Што робіць Амерыка ў Сірыі? Бамбіць. Тое самае робіць цяпер Расея. Супраць тэрарыстаў трэба дзейнічаць зброяй.

**Гутарыў Ігар Карней**

**Аляксей Фралоў**

нарадзіўся ў 1974 у Мінску. Скончыў музычны ліцэй пры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, а ў 1997-м — і саму ўстанову па класе фагота. Шлях да музыкі абраў дзякуючы бацькам: маці ад 4 гадоў вадзіла сына ў філармонію ды оперны тэатр, бацька сам быў выдатным габаістам, салістам Сімфанічнага аркестра Беларускай філармоніі, адным са стваральнікаў ансамбля старадаўняй музыкі «Кантабіле».

Фралоў — першы беларускі фагатыст, які атрымаў прызнанне на прэстыжных еўрапейскіх конкурсах як выканаўца-саліст. Фралоў таксама даследчык старадаўняй беларускай музыкі, краязнаўца. Мастацкі кіраўнік фэсту «Год Агінскага» ў Залессі. Сёлета ў ліпені пабраўся шлюбам, жонка па адукацыі батанік.




СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**10 кастрычніка ў Мінску прайшоў «Марш нацыянальнага сцяга». Звыш тысячы чалавек прайшло па цэнтры сталіцы: ад плошчы Свабоды да плошчы Якуба Коласа. Нікога не затрымлівалі. 11 кастрычніка Лукашэнка прызнаўся, што на час выбарчай кампаніі даў загад не затрымліваць ніводнага апазіцыянера, але прыгразіў, што пасля выбараў такая вольніца скончыцца.**




**Мінскі стадыён «Дынама» з вышыні птушынага палёту. Стадыён закрылі яшчэ тры гады таму, але рэканструкцыю не пачалі да сённяшняга дня.**



**На новы сезон «Мовы нанова» ў Брэсце прыйшло столькі людзей, што не змясціла зала. Гваздом праграмы першых заняткаў стаў вядомы акцёр і вядоўца перадачы «Падарожжы дылетанта» Юрый Жыгамонт. «Мова нанова» — гэта бясплатныя курсы беларускай мовы для ўсіх ахвотных. Пра іх можна пачытаць у інтэрнэце на сайце movananova.by.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**З-за завадскога плота па вуліцы Якуба Коласа мінакам заўважная верхняя частка былога бальшавіцкага правадыра — Рыгора Арджанікідзэ. Помнік усталявалі яшчэ ў пачатку 60-х гадоў мінулага стагоддзя на плошчы Мінскага вытворчага аб'яднання вылічальнай тэхнікі. З часам завадская тэрыторыя была здадзеная ў арэнду гандлёваму прадпрыемству «Алімп», і тэрыторыю ля помніка падзялілі плот. Цяпер побач з бальшавіцкім правадыром — паркоўка казіно.**



**Сенсацыя: зборная Паўночнай Ірландыі выйшла на чэмпіянат Еўропы па футболе. Раней ірландцы (так яны сябе называюць) ніколі не гулялі на Еўра, а апошні раз на чэмпіянаце свету толькі ў 1986 г. Беларусам такія поспехі пакуль нават і не сніліся.**



## Анекдоты і жарты

* * *

Да выбараў Лукашэнка ўключыў ацяпленне, зладзіў паўночнае ззянне і даў Нобеля Алексіевіч. Вы ўсё яшчэ не за яго?

* * *

Калі б галасы лічылі ў буфеце, то беларусы б абралі прэзідэнтам бяляш з мясам.

* * *

Касірка ў краме крычыць да прадавачкі з аддзела: «Маша! Ну колькі цябе можна чакаць? Прыйдзі сюды, а то ў мяне сэрца не б'ецца! Курынае!»

* * *

Сапраўдны кітаец у сваім жыцці павінен зрабіць тры рэчы: кеды, джынсы і айфон.

* * *

Толькі беларус не радуецца грошам, знойдзеным у зімовай вопратцы.

* * *

Кажуць, што сябры на дарозе не валяюцца. Ну, не ведаю, з маім сябрам бывае ўсялякае.

* * *

У буфеце:
– Спадарыня, дайце мне пляшку піва.
– З сабой?
– Не, без вас.

* * *

– А чаму цябе так цікавяць мае планы на выхадныя?
– Вось думаю, куды б пайсці, каб цябе не сустрэць.

* * *

У нашай сям'і зарадкай займаецца толькі мабільны тэлефон.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Засценак Хралоўшчына, Мінскі павет.** Жыў тут гаспадар Б., каторы не ладзіў са сваёй жонкай, бо меў у суседстве прынаду — удоўку С. Адзін раз, як ён выбіў сваю жонку, дык тая і кажа аднаму чалавеку Л.: «Каб хто звёў са свету гэтага гада, дык я б дала сто рублёў». Той, пачуўшы гэта, пайшоў на гасцінец і, як Б. ехаў да Мінска са сваёй удоўкай, застрэліў яго. Цяпер Л. і жонку забітага арыштавалі, але тая, мусіць, выкруціцца. Кажуць, што ўбіўца быў спакойны чалавек і баязлівы так, што баяўся вечарам выйсці з хаты.

**«НН». №42. 1910.**

**Выбары ў Германіі.** Ангелу Меркель, першую ў гісторыі Нямеччыны жанчыну-канцлера, называюць нехарызматычным, але эфектыўным палітыкам. Расія не можа разлічваць на блізкае сяброўства з Меркель. Усходненямецкая маленства Меркель пакінула не найлепшыя ўспаміны пра расійскіх «партнёраў». А вось Шродэр, якому выбарцы адмовілі ў даверы, цяпер разлічвае на грашавітую пасаду ў «Газпроме».

**«НН». №38. 2005.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6022. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 13.10.2015.
Замова №3943.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

9 771819 161008 15038